«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 7 (215), ліпень 2024 года

# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 7 (215) (ліпень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus

## Змест





**ЧЫТАЛЬНЯ**

# Вінаватая Аўдоцця



Мікола ІЛЬЮЧЫК



Вялізная чорная муха доўгі час атакавала аконную шыбу. Але марна. Свабода, што здавалася такой блізкай, была для яе недасяжнай марай. Бом, бом бом... У цішыні панурай хаты ўдары мухі аб шкло чуліся гучна. Яны ніяк не раздражнялі старую Аўдоццю, што ляжала на высокім ложку.

Аўдося прызвычаілася да манатоннага і доўгага жыцця, у якім яе мала што магло ўжо зацікавіць. Ейная душа даўно прагнула вырвацца на свабоду прэч са спакутаванага хваробамі і перажываннямі цела. Бом, бом, бом... Аўдосі здавалася, што гэта не муха б'ецца ў брудную шыбу, а ейная душа прагне вольнага палёту.

Змяркалася, святло далёкай бліскавіцы прабеглася па шыбах, па люстэрку, што вісела на сцяне, па шкле на рамах, з якіх глядзелі родныя і блізкія людзі, што засталіся толькі на гэтых фатаграфічных выявах ды ў памяці старой жанчыны.

Аўдося паднялася і запаліла святло. Яна магла і далей ляжаць і ўзгадваць людзей, што былі на фотаздымках, і не толькі іх — усіх, з кім давялося спаткацца на доўгіх жыццёвых шляхах. Але цяпер павінна прыйсці праўнучка. Аўдося ведала той момант, і ніякі гадзіннік ёй быў не патрэбны. Аленка наведвалася штодня ў гэты час. Прыносіла вячэру і нешта з прадуктаў на раніцу, а таксама на полудзень наступнага дня.

Рыпнулі завесы, бразнула клямка, і ў сенцах затупалі маладыя ножкі. Алена гучна зашчабятала. Апавядала вясковыя навіны, дзялілася ўласнымі планамі на дзень заўтрашні. Аўдосю не надта цікавілі падзеі вясковага жыцця. Напэўна, таму, што яна ўжо даўно была абыякавай да ўсяго, што адбываецца цяпер у вёсцы. Яна прывыкла знаходзіцца ў нейкім уласным кокане, абмежаваным сценамі старой, як і яна сама, хаты. Хату пабудаваў свёкар адразу пасля таго, як прагналі немцаў і яны вярнуліся з лесу ў вёску, што ператварылася ў агульнае вялікае пажарышча. Толькі па высокіх чорных комінах можна было тады вызначыць, колькі сем'яў засталося без уласнага жытла. І ніхто дакладна не ведаў, колькі лёсаў і жыццяў было зруйнавана за гады акупацыі.

Аленка шчабятала пра сваё, але старой хацелася, каб тая хутчэй сышла. Цяжка ўжыцца старасці з маладосцю. Аўдося разумела і тое, што не проста так Алена стараецца даглядаць яе. Ці быў бы такі догляд, калі б не Аўдосіна пенсія (не такая і малая) і не тыя грошы, што дае Алене дзяржава за яе клопат пра старую. Алене хочацца, каб старая жыла як мага даўжэй, але Аўдоцці абрыдла гэтае існаванне, жыццё для яе скончылася даўно. Колькі разоў яна звярталася да Усявышняга з просьбамі, відома, мабыць, толькі Яму, бо сама старая не памятае ўжо колькасць укленчваннняў перад Ім, каб урэшце забраў яе з гэтай зямлі.

— Ну ўсё, бабуля, бывай!

— Бывай, мая харошая, — старэчым ціхім голасам адказала Аўдося.

Алена быццам развіталася, але зноў дзялілася сваімі планамі наконт агарода, апавяла пра тое, што купіла ўжо да школы сваім пагодкам Міцьку і Віцьку, а яшчэ пра Кастуся, што паехаў на заробкі ў замежжа, а яна так і не дачакалася ад яго грошай.

— Бывай, бабуля, я пабягу, спраў яшчэ процьма. Да заўтра!

— Дабранач! Да заўтра.

Урэшце Алена сышла, а старая зноў засталася сам-насам з уласнымі ўспамінамі і пачуццём віны, якое цягнулася за ёю па жыцці. Што ёй зрабіць, як адкупіцца ад гэтага брыдкага пачуцця, якое прыхінае да зямлі, яна пакутуе ад яго неймаверна, ад яго баліць душа, яно не дае зацягнуцца ранам, яно зноў іх вярэдзіць, яны баляць і ніяк не могуць загаіцца. Самотнае жыццё наклала свой адбітак на яе звычкі. Штодня ці штовечар Аўдося абавязкова ўзгадвала і свайго першынца Казіка, і любага Ладзіка, і бацьку, і свёкра, які з адкрытай і шчырай усмешкай глядзеў з пажаўцелага партрэта, што висеў бліжэй да покуці.

Што рабіць, як жыць? Аўдоцця ведала, што да кожнага з іх прыйшла нахабная смерць, вырвала дарагіх людзей з яе асяродка. Але самым брыдкім было пачуццё віны, бо так меркавала сама Аўдося, што менавіта яна вінаватая ў іхнай смерці...

Так доўжылася дзень за днём, вечар за вечарам, ноч за ноччу. Ад гэтага ўсяго розумам можна крануцца. Але розум застаўся з ёю, яна не страціла яго, засталася памяць з жудаснымі ўспамінамі. І яна ўсведамляла: гэта ёй пакаранне за віну. Так думала яна сама, бо яе ўласна ніхто ніколі не вінаваціў, нават не дакараў. Для самой Аўдоцці пачуццё віны набыло нейкія матэрыяльныя абрысы, яно стала прапісалася ў яе хаціне. Жыла, пакутавала, мучылася і несла свой крыж пакорліва. Ведала, што не шмат засталося, хутка ўсё мае скончыцца. Дзіва што, хутка век будзе, як яна прыйшла ў гэты свет. Жыццё зацягнулася. Хоць якое яно жыццё. Жыццё было да таго моманту, як пачалася вайна. Далей — адно толькі існаванне.

Аўдося яшчэ раз абвяла позіркам рамы з фотаздымкамі. Прамовіла сваю немудрагелістую малітву, патушыла святло і паклыпала да ложка. Наперадзе доўгая ноч і ўспаміны, ад якіх нікуды не падзецца.

***

Неяк напрыканцы ліпеня да іх завітаў сваяк з суседняй вёскі. Дзядзька прыйшоў прыцемкам. Рызыка вялікая — удзень можна напароцца на фашыстаў ці паліцаяў, уначы — на партызан ці яшчэ каго. Ці мала людзей бадзяецца са зброяй па лясах у такі неспакойны час.

Сваяк намаўляў Ладзіка з бацькам хаваць дабро, забіраць самае неабходнае і сыходзіць у лясы: у пушчы больш шанц уратавацца самому і зберагчы сям'ю. Апавядаў, што дайшлі чуткі, быццам у мястэчку ўжо знішчылі ўсіх габрэяў, а ў навакольных вёсках людзей пабілі за тое, што нібыта дапамагалі партызанам. Усе разумелі: ён мае рацыю, — але як пакінуць гаспадарку, хату і ўсё тое, што будавалася дзесяцігоддзямі? А жніво, што пачало каласіцца і зусім хутка пакліча жней на працу? Прападзе ці дастанецца чужынцам, што ніколі не пралівалі поту на гэтай ніве. Марудзілі, усё спадзяваліся, што абміне іх навала. А куды ісці Аўдосі з трохмесячным Казікам? Як гадаваць дзіця ў пушчы? Не, як ні мяркуй, удома лепш...

У вёску зачасцілі партызаны. Нават пабор увялі, аброк на партызанку — чаргу ўсталявалі, колькі боханаў хлеба ад якой хаты і ў якую ноч павінна было быць падрыхтавана для адпраўкі ў лес. Колькі разоў такі хлеб пякла і Аўдося. Муж злаваў, лаяўся, але свёкар заступаўся за яе і ставіў сына на месца:

— Ладзік, спыніся, я табе кажу! Хочаш, каб за нейкі бохан хлеба хто з нас кулю атрымаў? А можа, хочаш, каб хату разам з дымам у неба пусцілі?

Не дарма свой хлеб елі і паліцаі, стараліся выслужыцца перад новай уладай. Былі ў іх свае прыслужнікі ў кожнай вёсцы, таму па нейкім час ўсе, хто забяспечваў партызан харчам, знаходзіліся пад пільным наглядам.

Аднойчы на досвітку ў хату забег свёкар.

— Аўдося, Ладзік, прачынайцеся! Карнікі! Аблава! Бярыце малога і бегам да Чорнай пушчы. Сустрэнемся на выспе, што за стругаю. Я паспрабую кароўку вывесці. А вы бяжыце! Як ёсць, так і бяжыце, ратуйцеся!

Аўдося з Казікам выскачыла з хаты, следам Ладзік, трымаючы ў руках клунак з нейкімі рэчамі, што паспеў прыхапіць з сабою. На іншым канцы вёскі былі чуваць стрэлы і брэх сабак.

У лесе перавялі дух. Прыслухаліся — ні брэху, ні стрэлаў не было чуваць. Але што пачуеш, калі сэрца калоціцца і дыханне ніяк не супакоіцца, а яшчэ немаўля, мабыць, таксама знясіленае, з плачу перайшло на нейкі піск. Аўдося прыклала сына да грудзей, і Казік імгненна супакоіўся. Яму добра разам з матуляй, утульна, цёпла і сытна. Ён старанна прыцмокваў бяззубым роцікам, на нейкае імгненне спыняў свой сняданак, але потым зноў лавіў губкамі смочку матулінай цыцкі.

Аўдося падумала, што варта было б пялюшкі памяняць на сухія, але невядома, ці паклаў іх Ладзя ў свой клунак. Тут, у старым ельніку на ўскрайку лесу, было добра і зацішна, хацелася застацца, каб перачакаць навалу. Але ж ім было загадана ісці ажно ў пушчу, а наперадзе яшчэ струга. Менавіта там яны сустрэнуцца са свёкрам, туды прывядзе ён Рагулю. Без яе ім не выжыць у лесе, пагатоў з немаўляткам...

Працяг на стар. 6 »

# Беларуская пісьменніца з Меджыбожа

Васыль ГАРБАЦЮК

З густых зялёных лясоў Беларусі дзівоснай птушкай плыве і ляціць да нас ва Украіну, на Падолле, чароўнае імя Зоські Верас — з яе доўгім, насычаным падзеямі жыццём, з яе глыбокім духоўным і душэўным светам, з яе літаратурнай творчасцю. Пісьменніца, выдавец, грамадска-культурная дзеячка, батанік, лінгвіст, чалавек энцыклапедычных ведаў — такой яна ўвайшла ў гісторыю братняга беларускага народа.

А пачаўся яе жыццёвы шлях у сучаснай Хмяльніцкай вобласці, у міжрэччы Паўднёвага Буга і Бужкі — у старажытным Меджыбожы, у мястэчку Меджыбож (сустракаецца і напісанне Мяджыбаж): тут 30 верасня 1892 года і нарадзілася Людвіка-Соф'я Сівіцкая (такое сапраўднае імя Зоські Верас). Пра гэту падзею захаваўся запіс у кнізе запісаў Меджыбожскай рымска-каталіцкай царквы. Вось запіс на мове арыгіналу:

«Тысяча восемьсотъ девяносто второго года седьмого Ноября въ Меджибожскомъ Р[имо] К[атолическом] Костеле окрещенъ младенецъ (по имени) двухъ именъ Людвика-Софія ксендзомъ Фортунатомъ Пасюкевичемъ администраторомъ тогоже Костела съ совершеніемъ всехъ обрядовъ Таинства.

Поручика 48-го пех[отного] Одесскаго полка Антона и Эмиліи урожденной Садовской Сивицкихъ законныхъ супруговъ дочь, родившаяся тридцатого Сентября текущего года въ м. Меджибожъ.

Воспріемниками были: Двор[янин] поручикъ Болеславъ Талвинскій съ Двор[янкой] Анастазіею Садовскою» [2, арк. 60 зв.-61]».

Усе з сям'і Людвікі Сівіцкай былі руплівымі прыхільнікамі беларускай мовы, прыроды, звычаяў роднага народа. Яе бацька Антон Міхайлавіч, афіцэр рускай арміі, называў сябе ліцвінам. Нарадзіўся ў 1864 годзе ў Гародні (цяпер Гродна). Скончыў мясцовую гімназію, шмат чытаў, любіў паэзію. Любімымі аўтарамі ў яго былі Адам Міцкевіч і Уладзіслаў Сыракомля. Пасля заканчэння Маскоўскага кадэцкага вучылішча пачаў службу ў Меджыбожы ў званні падпаручніка.

Прадзед Людвікі Сівіцкай па матчынай лініі Ігнат Кулакоўскі быў выкладчыкам і даследчыкам старажытнасцяў, сябрам Навуковага таварыства не толькі ў Вільні, Варшаве і Пецярбургу, але і ў Даніі. Яшчэ ў 1834 годзе ў лісце на імя міністра асветы Расіі ён пісаў аб неабходнасці асветы беларускага народа «з улікам нацыянальнай самасвядомасці тутэйшага народа».

«Калі ў 1840-я гады ў Пецярбургу выйшаў альманах Яна Баршчэўскага «Незабудка», — успамінала пазней у адным са сваіх лістоў Зоська Верас, — сярод яго падпісчыкаў быў і мой прадзед Ігнат Кулакоўскі. Разумею, што мой удзел у беларускім руху — простая спадчына ад прадзеда» [1, с. 251].

У сваім маёнтку Крыштапорава (Сакольскі павет Гродзенскай вобласці) Ігнат Кулакоўскі ўвёў нелегальнае вывучэнне беларускай мовы дзецьмі і прыслугай. Людвік Садоўскі, дзед будучай пісьменніцы па лініі маці, таксама клапаціўся аб захаванні беларускай мовы, добра ведаў яе і карыстаўся ёю ў размовах з сялянамі. Ён быў вядомым пчаляром і садоўнікам. Свой маёнтак Вільхоўнікі ён меў на частцы бацькоўскай зямлі — 35 дзесяцін, бо Крыштапорава мусіла яго прадаць, пакінуўшы толькі кавалак зямлі. Маці Людвікі, Эмілія Міхайлаўна, нарадзілася ў маёнтку Крыштапорава [1, с. 414].

Што да маладой Людвікі-Сафіі, то кожнае лета яна разам з маці выязджала з Меджыбожа да бацькоў на хутар Вільхаўнікі (цяпер тэрыторыя Беластоцкага ваяводства Рэспублікі Польшча). Гэта садзейнічала развіццю ў душы дзяўчыны любові і адданасці беларускай зямлі, беларускаму народу — яна потым лічыла іх сваімі, роднымі. Але пакуль што лёс развёў яе і яе сям'ю па розных дарогах. Пасля Меджыбожа жылі ў Воліцы каля Стараканстанцінава [1, с. 377].

«Я расла адна ў бацькоў, — успамінала пазней у адным з лістоў Людвіка Сівіцкая. — Мой маленькі 10-месячны брат памёр, калі мне было 3 гады, ішоў 4-ы. Бацькі вельмі перажывалі за страту сына… А бацька стараўся выхоўваць мяне хлопчыкам. Я не расла распешчанай дзяўчынкай. Калі бацька быў камандзірам нестраявой, значыцца, гаспадарчай часткі палка, ён усюды браў мяне з сабой — у лес, дзе нарыхтоўвалі дровы, на сенажаць, дзе касілі траву. У 12 гадоў я каталася на кані, лазіла па дрэвах, аглядала казармы (вядома, калі салдаты былі на вучэннях), а таксама салдацкія ялінкі… Таму летам на Сакольшчыне, у фальварку мамінага бацькі, я зусім не была падобная да выхаванай паненкі, якая была ў курсе ўсіх хатніх спраў і найбольш трымалася да коней» [1, с. 359].

Але вернемся да ўспаміну Людвікі Сівіцкай-Войцік пра Воліцу. Вёсак з такой назвай на Валыні шмат. У старажытнасці іх было яшчэ больш. У прыватнасці, у 1593 годзе ў Канстанцінаўскім павеце было шэсць Воліц. Дык у якой Воліцы магла быць маленькая Людвіка Сівіцкая? Адказ на гэтае пытанне можа даць кніга Мікалая Тэадаровіча «Волынь в описаниях городов, местечек и сел в церковно-историческом, географическом, этнографическом, археологическом и др. отношениях. Историко-статистическое описание церквей и приходов Волынской епархии. Т. IV. Староконстантиновский уезд», выдадзеная ў Пачаеве ў 1899 годзе [5]. У апісанні вёскі Воліца-Керакешына ў гэтай кнізе адзначана, што ў памешчыцкіх казармах зімой размяшчаюцца два батальёны 45-га пяхотнага Азоўскага палка [5, с. 351].

Такім чынам, становіцца цалкам зразумелым, чаму сям'я вайскоўца, у тым ліку і маленькая Людвіка, жыла ў вёсцы на Стараканстанцінаўшчыне.

З успамінаў Зоські Верас вядома, што пасля Воліцы (Керакешыны) Сівіцкія жылі ў Вінніцы, Луцку [1, с. 377].

У 1904 годзе Людвіка паступіла ў Кіеве ў прыватную гандлёвую школу Л. Валадкевіча. Аналіз гэтых фактаў дазваляе меркаваць, што Сівіцкія ў Воліцы-Керакешыне жылі ў канцы XIX стагоддзя. Якраз тады, калі выйшаў з друку чацвёрты том даследавання М. Тэадаровіча — пра Стараканстанцінаўскі раён.

Аўтар мяркуе, што гісторыя Воліцы (пакуль з такой назвай) сыходзіць каранямі ў глыбокую мінуўшчыну. Прынамсі, яшчэ ў 1593 годзе сяло было спустошана і спалена татарамі, аб чым паведамляў Луцкі гродскі суд у Луцкім каралеўскім замку [5, с. 349].

Да 1620 года вёска належала князям Астрожскім. Потым перайшла да Заслаўскіх, Любамірскіх, Сангушкаў і зноў да Любамірскіх. У канцы XIII стагоддзя яно стала ўласнасцю шляхціца Керакешы, ад прозвішча якога і атрымала працяг сваёй назвы: Воліца-Керакешына [5, с. 350].

Ад Керакешы вёска пераходзіла да Елавіцкіх (Яловіцкіх), потым да Чацкіх… На момант выхаду кнігі М. Тэадаровіча (1899 г.) Воліца-Керакешына знаходзілася на мяжы Стараканстанцінаўскага і Ізяслаўскага паветаў, так што землі мясцовых сялянаў і памешчыкаў урэзаліся далёка ў Ізяслаўскі павет [5, с. 349].

Царква Пакрова Прасвятой Багародзіцы пабудавана ў 1799 годзе [5, с. 350]. Роўна праз стагоддзе, гэта значыць на момант выхаду кнігі М. Тэадаровіча, прыход гэтай царквы налічваў 108 двароў, 850 прыхаджан абодвух полаў. Таксама ў вёсцы пражывала 18 рыма-каталікоў і 47 яўрэяў [5, арк. 351]. У 1888 годзе адкрыта царкоўна-прыходская школа. У 1893 годзе ў ёй вучылася 11 дзяцей. Вучыў іх мясцовы псаломшчык. Курс навучання працягваўся тры гады [5, с. 351]. Са згадкі аб зімовым знаходжанні салдат у казармах Воліца-Керакешына таксама можна меркаваць, што ў той час у вёсцы жыла і сям'я Сівіцкіх.



Малая Людвіка з маці ў дзядоў каля Саколкі, маёнтак Альхоўнікі

Магчыма, успамін Людвікі Сівіцкай-Войцік пра салдацкую ялінку звязаны з часам яе знаходжання ў Воліцы-Керакешыне. Вядома, у вясковую царкоўна-прыходскую школу дзяўчынка не хадзіла. Пачатковую адукацыю, у тым ліку музычную, атрымала ад бацькоў. І гэтага было цалкам дастаткова, каб паступіць у кіеўскую гандлёвую школу Л. Валадкевіча. У той час яна атрымала ад бацькоў пачатковую адукацыю, у тым ліку музычную.

Літаратурны дэбют Людвікі адбыўся ў час вучобы ў школе — у школьным часопісе «Подснежник», які друкаваўся на друкарскай машынцы, меў у якасці ілюстрацый выявы і малюнкі школьніц і выходзіў у некалькіх дзясятках экзэмпляраў. Зразумела, на рускай мове, якая панавала ў той час ва ўсіх навучальных установах імперыі.

«Гурткі ў нас былі розныя, у тым ліку і літаратурны, — успамінала Зоська Верас. — Літаратурны гурток заўсёды збіраўся па нядзелях, а потым у нас былі заняткі па імправізацыі. Наша настаўніца літаратуры (вельмі таленавітая пісьменніца, аўтар многіх сцэнічных твораў для юнацтва) сядзела ў цэнтры, мы вакол яе. Яна пачынала расказ на пэўную тэму, даводзіла яго да пэўнага месца, спынялася і гаварыла аднаму з нас: працягвай. І так адзін за адным разгарнулі тэму. Адзін карацей, другі даўжэй — у залежнасці ад здольнасцяў і фантазіі. Было вельмі цікава. Так яно і засталося ў мяне. Не пішу — распавядаю…» [1, с. 283].

Пасля раптоўнай смерці бацькі ў 1907 годзе (апошнім месцам службы капітана Антона Сівіцкага быў горад Сураж Чарнігаўскай губерні) Людвіка разам з маці пераехала ў радавы маёнтак Садоўскіх — Вільхаўнікі Сакольскага павета. У 92 гады яна напісала ў адным з лістоў: «Ці ведаеце вы Кузніцу? Ад яе прамая дарога (вёрст 10) — старым, аброслым бярозамі ўрочышчам на Новы Двор, каля якога зямля маіх прадзедаў. Калі б вы толькі ведалі, як я прагну тых краёў! Столькі гадоў (з 1923 г.) я ў Вільні. І ўсё тут мне чужое» [1, с. 296].

У наступным 1908 годзе Людвіка Сівіцкая паступіла ў 6 клас прыватнай жаночай гімназіі Кацярыны Баркоўскай, што знаходзілася ў крэпасці Стэфана Баторыя ў Гародні. Насупраць — Фарны касцёл, а за ім — на вуліцы Купецкай, жылі яе дзяды (Міхал і Міхаліна). Там прайшло дзяцінства бацькі Людвікі. Цяпер і яна там пасялілася.

Падчас вучобы ў гімназіі Людвіка Сівіцкая пачала супрацоўнічаць з газетай «Наша Ніва» (1911) — пад псеўданімам Мірка друкавала свае «творыкі» на беларускай мове.

Прага да пісьменніцтва, мабыць, была закладзена ў яе душы яшчэ ў дзяцінстве. У той час у Гародні жыла вядомая польская пісьменніца Эліза Ажэшка, якая сябравала са знаёмай «гарадзенскай» бабуляй Людвікі Міхалінай Сівіцкай. «Яна заўсёды расказвала бабулі, куды і на што яны з Э. Ажэшка хадзілі, што запісвалі. А мая бабуля, — успамінала Зоська Верас, — калі мне было гадоў 8—9, усё расказвала, каб ведала, "як пісьменнікі працуюць". Пры гэтым я заўсёды сядзела ў бабулі на каленях. Такая вялікая дзяўчынка. Але ў той час я была адзінай унучкай сваіх дзядоў і вельмі распешчанай. Маміны браты былі больш стрыманыя і ўвогуле не песцілі так сваіх унукаў» [1, с. 279].

Пашану да беларускай мовы, роднага краю і яго прыроды, гісторыі і звычаяў маладая Людвіка пераняла як у родных, так і ў больш шырокім асяроддзі. «На Сакольшчыне вёскі былі пераважна каталіцкія і зрэдку мяшаныя. А якая там была высокая свядомасць, якая павага да мовы, песні, звычаю!..» [1, с. 380].

Усё тое перадавалася моладзі. Людвіка была сябрам Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі. Ён дзейнічаў нелегальна, спачатку пад прыкрыццём ксяндза Францішка Грынкевіча, а потым у вялікай кватэры, якую наймала маці Людвікі, спецыяльна абсталяванай для пражывання студэнтаў. Людвіка была бібліятэкарам гуртка, іграла ў спектаклях. У прыватнасці, у лютым 1910 года калектыў паставіў на сцэне п'есу «Па рэвізіі» Марка Крапіўніцкага. Людвіка выступіла (упершыню ў жыцці) у ролі старой Пантурчыхі, а ў лютым 1911 года выступіла ў ролі Ганкі ў «Модным шляхцюку» Каруся Каганца. Паказ гэтага спектакля таксама адбываўся на кватэры капітанскай удавы.

«Хоць Крыштапорава было ўжо ў чужых руках, але першую вечарыну для навакольных вёсак наш гарадзенскі гурток ладзіў у гэтай хаце ў зале, дзе хрысцілі маю маці. Ігралі «Па рэвізіі», спяваў хор, чытаўся адпаведны навучальны рэферат» [1, с. 414].

І ўвогуле, у значнай ступені дзейнасць гуртка ў той час была сканцэнтравана ў іх доме. Чыталіся лекцыі, спяваў хор, ставіліся п'есы, праводзіліся заняткі па вывучэнні беларускай мовы, ладзіліся вечарыны. Тут нарадзіўся самаробны альманах «Колас беларускай нівы» (1913), надрукаваны цыклastылем тыражом пяцьдзясят экзэмпляраў.

У Гародні Людвіка паступова ўвайшла ў літаратурнае жыццё. Супрацоўнічала ў газеце «Наша Ніва», кантактавала з віленскімі выдавецтвамі, ліставалася з беларускімі пісьменнікамі Іванам Луцкевічам, Вацлавам Ластоўскім, Аляксандрам Уласавым. Пасля заканчэння гімназіі (1912 г.) яшчэ год жыла ў Гародні, працавала рэпетытаркай, а затым выехала ў Варшаву, дзе вучылася на 10-месячных садаводча-пчалярскіх курсах і на вячэрніх 6-тыднёвых ваенна-санітарных курсах (1914 г.).

Заканчэнне на стар. 3 »

# Беларуская пісьменніца з Меджыбожа

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 2

Перад пачаткам Першай сусветнай вайны вярнулася ў дзедаў маёнтак Вільхоўнікі, а з-за вайны разам з маці эвакуявалася ў Менск. У 1915—1916 гадах працавала ў Беларускім камітэце дапамогі пацярпелым ад вайны, які арганізаваў «Беларускую хатку», дзе таксама разгарнулася значная культурная праца. У той жа час яна пазнаёмілася і пасябравала з Максімам Багдановічам, які пяць месяцаў жыў у Менску і быў сябрам таварыства «Беларуская хатка».

«З 17 гадоў я ў асноўным размаўляла толькі па-беларуску», — напісала яна пазней у лісце. — Але беларуская была наша, мяккая, сакольская. Пазней, ужо ў Менску, трэба было прызвычаіцца да літаратурнай, але і пачуць розныя адценні з розных кутакоў Беларусі» [1, с. 336].

Маладая дзяўчына, не гледзячы на пэўную фізічную загану (яна крыху недачувала), цалкам аддалася справе нацыянальнага адраджэння беларускага народа. Працавала ў Беларускім нацыянальным камітэце, Цэнтральнай радзе беларускіх арганізацый, Беларускай сацыялістычнай грамадзе. Ва ўсіх гэтых арганізацыях займала пасаду сакратара, то бок вяла справаводства. Але яна зусім не патанула ў папяровай валакіце — была прагнаю да дзеянняў, актыўнай працы. Варта адзначыць, што фактычна ёй давялося кіраваць працэсам падрыхтоўкі першага вайсковага з'езду беларусаў. Дарэчы, Людвіка Сівіцкая аказалася адзінай жанчынай сярод удзельнікаў з'езду.

Удзельнічала ва Усебеларускім з'ездзе. Аднак калі набліжаўся момант абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, бальшавікі ўварваліся ў залу і арыштавалі прэзідыум, а дэлегатаў разагналі са зброяй. На гэтым скончылася спроба пабудаваць сваю дзяржаву. Людвіка Сівіцкая была вымушаная перайсці да амаль нелегальнай дзейнасці.

Тады ж — 7 ліпеня 1917 года — надрукавала свой твор — лірычны абразок — у газеце «Вольная Беларусь» і ўпершыню падпісала яго літаратурным псеўданімам Зоська Верас. Зоська — ад імя па бацьку Сафія, Верас — бо вельмі любіла гэтую расліну, а перад тым ёй падарылі букецік верасу.

У Людвікі склаліся блізкія адносіны з рэвалюцыйным дзеячам і пісьменнікам Фабіянам Шантырам. Жыў у Бабруйску, але часта бываў у Менску. Як і Людвіка, ён удзельнічаў у працы гуртка «Беларуская хатка» ў 1916—1917 гадах, вёў актыўную палітычна-грамадскую дзейнасць. Дзяўчына наведвала яго і ў Бабруйску, асабліва калі яго ў 1918 годзе арыштавалі і кінулі ў турму. Пазней у лістах і ўспамінах Зоська Верас называла Фабіяна Шантыра сваім мужам, хоць яны не змаглі ажаніцца з-за адсутнасці асабістых дакументаў: згубілася пасведчанне аб нараджэнні, а маці павезла пашпарт у Пецярбург, каб перааформіць пенсію як удава капітана. У Фабіяна таксама не было некаторых дакументаў. Таму афіцыйна яны не пабраліся шлюбам. У Людвікі быў сын Антон, але бацька яго не бачыў — у 1920 годзе Фабіяна Шантыра расстралялі бальшавікі.

У той час Людвіка жыла ў дзедавым маёнтку ў Вільхоўніках — а напрыканцы 1918 года вярнулася ў Менск. Займалася агародніцтвам, садам, пасекай. Аднак, аддаючыся любімай зямной справе, адчувала, што не можа абысціся без актыўнай грамадскай, творчай працы.

У 1922 годзе разам з маці пераехала ў Вільню. Склала і выдала (1924 г.) «Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік». Працавала адміністратарам



Зоська Верас

рэдакцыі газеты Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

«У публічнай прэсе я была не сакратаром (у нас такой пасады ўвогуле не было), а адміністратарам. У мяне былі фінансы на руках (атрымлівала 4,5 тысячы штомесяц ад Дэпутацкага клуба). Купляла паперу, разлічвалася з друкаром, наборшчыкамі, карэктарам, экспедытарам, поштай... Кожны месяц давала паслам (дакладней Раку-Міхайлоўскаму) пісьмовую справаздачу. З рахункамі-фактурамі, квітанцыямі і г.д. » [1, с. 383].

Яна апекавалася беларускімі палітвязнямі, якія трымаліся польскімі ўладамі ў турме «Лукішкі». Адтуль яна вынесла вершы Міхася Машары і на ўласныя сродкі выдала яго першы зборнік «Малюнкі» (1928 г.).

У той час яна таксама друкавала і свае творы — у часопісах «Шлях моладзі», «Студэнцкая думка». Больш за тое, яна іх ніколі не перапісвала, не «шліфавала». «У мяне як напісана — добра, а не — у кошык». Але вось як кранальна, пяшчотна гучыць яе верш «Ліст» (у маім перакладзе на ўкраінскую):

*Хотіла до тебе написати*
*На пелюстці ружі пахучій,*
*Але пелюстка могла б загинути*
*В бурі жахкій, гримучій.*
*Хотіла до тебе написати*
*На метелика крильці двобіч.*
*Але ж метелик помирає,*
*Як насуне-прийде темна ніч.*
*Хотіла я лист послати*
*Через ластівку з нашого дому,*
*Але ж вона могла віддати*
*Його іншому хтозна кому.*
*І так деньочки минають...*
*Не маю його як послати,*
*А лист же такий сердечний*
*Хотілось тобі написати.*

У 1926 годзе Людвіка выйшла замуж за рэдактара газеты Антона Войціка. Пабраліся шлюбам у віленскім касцёле святога Мікалая.

Пасяліліся ў прадмесці Вільні. Ад гэтага шлюбу 1 ліпеня 1927 года нарадзілася дачка Галіна. З гэтага ж года Людвіка Войцік стала рэдактарам дзіцячага часопіса «Заранка», дзе друкавала і свае апавяданні. Перакладала з іншых моў, у прыватнасці, з польскай і ўкраінскай. Казка ўкраінскага пісьменніка Рамана Завадовіча «Князь Марцыпан» выйшла на беларускай мове ў 1929 годзе. У Львове ў яе было шмат знаёмых украінцаў, яна абменьвалася нумарамі «Заранкі» з часопісам «Свет дзіцяці» [3].

У 1934—1935 гадах яна ўзначальвала дзіцячы часопіс «Пралескі», у 1928—1939 гадах была старшынёй Беларускага кааператыва «Пчала» і адначасова (1934—1938) — рэдактаркай пчалярскага часопіса «Беларуская борць» (Вільня). Але на самой справе яна выдавала часопіс сама, таму многія матэрыялы ў ім падпісвала рознымі крыптанімамі, каб не было відаць, што аўтар адзін і той жа. У абмен на свой часопіс атрымлівала іншыя выданні на тую ж тэму, у тым ліку і ўкраінскія. Пазней у адным з лістоў яна згадвала, што «сярод гэтых украінскіх часопісаў (не толькі ўкраінскіх, але і чэшскіх) ёсць цікавы месячнік для дзяцей «Бджолка», які выходзіў на Падкарпацкай Украіне — ва Ужгарадзе» [5, с. 393]. Рэдактарам таго часопіса быў таксама аддана справе пчалярства і выдавецкай справы, родам з Новай Ушыцы, Павел Кукуруза.

Успамінаючы бабулю Міхаліну — маці свайго бацькі, якая жыла ў Гародні, Людвіка Антонаўна адзначыла, што, «напэўна, ад бабулі — мая цяга да раслін. У яе заўсёды былі травы. Рабіла, напрыклад, лекі ад страўнікавых хвароб — дзевяць зёлак на гарэлцы» [1, с. 302]. Таму яна таксама займалася лекавымі раслінамі, напісала і выдала брашуру «Гісторыя ўжывання лекавых траў» (1934 г.).

Людвіка Войцік з мужам пабудавалі ў лесе на Панарскіх пагорках пад Вільняй хату з дрэва і гліны, як робяць тое ва Украіне. Па дзіўным супадзенні менавіта ў апісанні вёскі Воліца-Керакешына, дзе некалі жыла маладая Людвіка, сустракаем сказ: «Сялянскія хаціны будуюць з дубовага дрэва, абмазваюць глінай» [1, с. 351].

«Мы купілі гэтую зямлю [пад лясную хатку. — *В. Г.*], — успамінала яна пазней, — у жыхара вёскі Рэвянцы, што цяпер за гарой, непадалёк ад нас. Некалі вяскоўцам гэтай вёскі выдзялялі такія надзелы пасярод лесу. Сёння гэта ўжо не вёска, а вуліца Рэвоню, далучаная да горада» [1, с. 320]. Там знайшла сілы для працы каля зямлі — фактычна вакол сваёй «лясной хаткі» стварыла багаты батанічны сад.

Грамадская і творчая дзейнасць Зоські Верас (Людвікі Войцік) завяршылася ў 1940 годзе, калі Вільня апынулася пад савецкай, а потым нямецкай акупацыяй. Асабліва цяжкія часы наступілі, калі прыйшло «другое» «вызваленне» Саветамі. У 1944 годзе была зачынена Віленская беларуская гімназія, а ў наступным годзе ліквідаваны Беларускі музей імя Івана Луцкевіча. У 1946 годзе савецкія карныя органы арыштавалі сына — Антона Шантыра. Яго сляды зніклі. У 1948 годзе нечакана памёр муж.

У жыцці Зоські Верас наступіў перыяд, які яна пазней назвала «летаргічным сном». Прырода дапамагала ёй трымацца за жыццё, любімымі заняткамі былі агарод, садоўніцтва, пасека. Менавіта ў «лясную хатку» пасля дзесяцігадовага знаходжання ў сталінскіх лагерах без права перапіскі і вяртануўся цяжка хворы сын.

Хто ведае, як склалася б жыццё забытай усімі Зоські Верас, калі б яе не знайшоў у той «лясной хатцы» і не «пераадкрыў» даследчык Арсень Ліс, які збіраў у віленскіх архівах матэрыялы для сваёй дысертацыі. У яе «лясную хатку» сталі наведвацца пісьменнікі, журналісты, навукоўцы, студэнты. Зосьцы Верас было аб чым расказаць — усё ж яна ўдзельнічала ў многіх падзеях у лёсе свайго народа, ведала многіх пісьменнікаў, палітыкаў, грамадскіх дзеячаў.

У канцы 1980-х гадоў вакол Зоські Верас гуртавалася віленская беларуская інтэлігенцыя. У 1982 годзе яна была прынята ў Саюз пісьменнікаў СССР. У часы так званай «перабудовы» разам з зяцем Лявонам Луцкевічам стварыла клуб «Сябрына», а ў наступным годзе — Таварыства беларускай культуры ў Літве.

Вярнулася і да літаратурнай творчасці. У 1985 годзе выдала кнігу вершаў і апавяданняў для дзяцей «Каласкі». Аднак сваю літаратурную дзейнасць яна ацаніла не вельмі высока: «Непрыемна перажываю плёткі, якія ходзяць вакол майго юбілею. Для мяне больш значыць мая праца з беженцамі, а потым у Вільні з арганізацыяй «Пчолы», пчалярскага таварыства, чым уся т. зв. творчасць. Бо пахваліцца тут сапраўды няма чым» [1, с. 380].

Яна пісала ўспаміны, вяла актыўную перапіску, у якой выказвала сваю падтрымку лёсу беларускай мовы і культуры, успамінала падзеі мінулага: «Я з маленства, гэта значыць з канца XIX ст., помню, у кожнай краме размаўлялі па-польску. На вуліцах можна было пачуць розныя мовы, у тым ліку і беларускую. Цяпер Гродна жыве зрусіфікаваным. Не было ні беларускай газеты, ні школы, ні ўніверсітэта... У той час, хоць гурток і вынес беларускую мову на вуліцу, спектаклі і вечарыны ішлі на сваёй мове. А цяпер? У мой час мовы не ваявалі адна з адной. У нас быў свой гурток, у палякаў было «Коло польскей млодежі постемповей», і мы жылі ў згодзе, дапамагалі адзін аднаму. Мы да іх, яны да нас...» [1, с. 400].

Памерла Зоська Верас 8 кастрычніка 1991 года. Яе пахавалі на Панарскіх могілках побач з магіламі маці, мужа і сына.

У 2013 годзе выйшла кніга «Зоська Верас. Я ўсё памятаю». Яе ўспаміны, а гэта 367 старонак, датаваных 1967—1989 гадамі, апрацаваў і ўпарадкаваў для друку пісьменнік і літаратуразнаўца Міхась Скобла. Дзякуючы яму і яго калегу Сяргею Панізніку Зоська Верас цяпер вяртаецца і на Украінскае Падолле, дзе пачынаўся яе жыццёвы і творчы шлях.

24 лютага 1986 года Зоська Верас закончыла свой ліст да Сяргея Панізніка такімі радкамі (хай зноў прагучаць у перакладзе на ўкраінскую):

*Бувають вогнища, бурею, дощами залиті,*
*Вугіллям чорним, попелом сірим покриті.*
*Бувають душі, як вогонь, спопелілі,*
*Півмертві ніби й не в своєму тілі.*
*Та коли рукою сміло їх доторкнем —*
*Засяють полум'ям ясним, живим вогнем* [4].

Так сталася і з ёй, Людвікай Сівіцкай-Войцік — Зоськай Верас. Да яе, забытай гадамі і лясамі, дакрануліся шчырыя і смелыя рукі, і яна ажыла, заззяла жыва, ярка, непаўторна, адарыла цяплом, духоўным і творчым запалам многіх сваіх сучаснікаў. Так ззяе нам і сёння.

**Крыніцы і літаратура**

1. Верас Зоська. Я ўсё памятаю. Успаміны, лісты. Укладальнік Міхась Скобла. — Гарадня-Вроцлаў. 2013. — 498 с.
2. Дзяржаўны архіў Хмяльніцкай вобласці, Ф. 17, оп. 2, спасылка 21.
3. Ліст да Сяргея Панізніка ад 19 студзеня 1983 г. Захоўваецца ў архіве адрасата.
4. Ліст да Сяргея Панізніка ад 26 лютага 1986 г. Захоўваецца ў архіве адрасата.
5. Тэадаровіч М. І. Волынь в описаниях городов, местечек и сел в церковно-историческом, географическом, этнографическом, археологическом и др. отношениях. Историко-статистическое описание церквей и приходов Волынской епархии. Т. IV. Староконстантиновский уезд. Почаев. Типография Почаево-Успенской Лавры. 1899 г.

***Пераклад з украінскай мовы***

# Фрэскі



Барыс ПЯТРОВІЧ

## Закаханым застацца

Праз усё жыццё яго суправаджалі дзяўчаты і жанчыны з адным і тым жа імем. Ну, магчыма, недзе некалі былі і іншыя імёны, але цяпер, азіраючыся на мінулае, ён згадвае толькі адно гэтае імя.

Так часта бывае ў мужчынаў, і хтосьці, убачыўшы ў гэтым нейкую заканамернасць, нават выкраіў з таго параду: выбірай каханак толькі з імем жонкі, тады не будзе ў цябе ніякіх праблемаў. І не толькі ў ложку.

Першая закаханасць прыходзіць рана і ў хлапчукоў, і ў дзяўчатак — звычайна, яшчэ ў дзіцячым садку. Ён тады прывёў дзяўчынку-аднагрупніцу да сябе дамоў і сказаў: «Аня... (выберам тут з усіх жаночых імёнаў не тое, сапраўднае, а гэтае, асвечанае мележавай Ганнай імя, бо можа яно быць любы́м і любым і ў кожнага сваім), дык вось: Аня, — сказаў ён крыху разгубленым бацькам, — будзе маёй жонкай і застанецца жыць у нас». Было яму чатыры з нечым гады, і Аня, зразумела, праз дзясятак хвілінаў была знойдзеная не менш разгубленай ейнай мамай, якая літаральна на пару хвілінаў спазнілася на разбор дзетак у садку. А ён, паколькі іхні дом стаяў пад’ездам да выхаду з садка дзверы ў дзверы, узяў Аню за руку і прывёў да сябе...

Потым была школа. Аня, не тая, іншая, сядзела перад ім на першай парце, ён — на другой, і яна ўвесь час была перад ім. О, як яму падабаліся ейныя маленькія ружовыя вушкі, што тырчэлі з-за заплеценых у дзве коскі валасоў, і асабліва па некалькі дробных рабенькіх радзімак на кожным з іх. Заплюшчыць вочы — і цяпер бачыць. А коскі... Як хацелася пацягнуць за іх, каб Аня азірнулася...

Аня была выдатніцай, а ён вучыўся сярэдне. Але па матэматыцы, па рашэнні розных задачак, не было яму роўных у класе. Апярэджваў ён і Аню, што вельмі не падабалася ёй. Яна злавала на яго кожны раз, калі ён першым рашаў кантрольную і падыходзіў да стала настаўніцы, каб аддаць свой сшытак. Ён тады бачыў яе прыгожанькі твар і падціснутыя ў незадавальненні вусны... Атрымаўшы чарговую «пяцёрку», ён выбягаў з класа — настаўніца прыдумала ім такую ўзнагароду: хто рашаў усе задачкі, мог выходзіць у двор гуляць, пакуль іншыя пацелі, складаючы і адымаючы лічбы.

Другой звычайна выходзіла Аня. «Пяць?» — з радасным пытаннем кідаўся ён да яе. Яна моўчкі, насуплена, але з гонарам ківала галавой і адыходзіла ўбок. У яго тады была магчымасць пагаварыць з ёю, аднак кожны раз не хапала духу, і ён адыходзіў. А потым, праз год, Аня і ўвогуле з’ехала з бацькамі жыць у іншы горад і так і засталася ў ягонай памяці міленькай, акуратнай і недасягальнай дзяўчынкай.

Колькі гадоў ён нікога не заўважаў вакол сябе, сур’ёзна заняўся спортам, які забіраў амаль увесь вольны час. Прычым спалучаў, здавалася б, неспалучальныя — футбол і шахматы. І толькі ў старэйшых класах ён раптам вылучыў сярод дзяўчат паралельнага «Б»-класа... ну, зразумела ж, Аню — чароўную мініяцюрную прыгажуньку, у якую, аказалася потым, былі закаханыя ўсе хлопцы-старшакласнікі школы. Яна ж, здаецца, не заўважала нікога, нават яго, як ён ні стараўся звярнуць на сябе ўвагу на футбольным полі ці школьнай шахматнай алімпіядзе. Але нават на апошнім бале ён не адважыўся падысці да яе і запрасіць на развітальны танец.

Аднак на тое яна і была Аня, каб урэшце, праз сем гадоў, стаць ягонай жонкай.

Зрэшты, мы забеглі далёка наперад. Бо пасля школы ён адразу паступіў ва ўніверсітэт у сталіцы, а Аня таксама ва ўніверсітэт, але ў іхнім горадзе, і за тыя пяць гадоў вучобы яны ні разу не пабачыліся, не сустрэліся хай бы выпадкова, хоць дамы іхнія стаялі амаль побач.

Затое ў студэнцкія гады на ягоным шляху паўсталі адразу некалькі Аняў. Першая — у цягніку па дарозе дамоў на канікулы. Яны выпадкова апынуліся ў адным купэ. З гадзіну прамаўчалі, а потым раптоўна для сябе разгаварыліся, а потым яна перасела на ягоную лаўку, а потым яны цалаваліся да самае ейнае станцыі.

Цягнік імчаў далей, змяняючы лясы на палі, а палі на вёскі, а ён стаяў каля вакна і думаў: «Божа, якое прыгожае імя — Аня!». І пагаджаўся сам з сабою: «Так і ёсць: у нашых каханых імя заўсёды самае прыгожае...»

Другая Аня — у будатрадзе, у якім ён быў заўгасам і як заўгас ездзіў закупляць харчы ў краму ў суседнюю вёску. Там працавала мясцовая дзяўчына незвычайнай прыгажосці не толькі для вясковай прадавачкі, але і для... без перабольшвання — парыжскай мадэлі. Яна яму спадабалася адразу, і ён, падобна, ёй таксама. Тады ўпершыню ён адчуў, што такое жарсць, выпадкова дакрануўшыся да яе пляча сваім. Ён адчуў, як ток прабег па ўсёй дзяўчыне. Электрычны ток. І гэтым токам ударыла, працяла яго наскрозь... Там, у складзе вясковай крамы, у паўцемры, на нейкіх мяшках з крупамі ці з мукой, ён і страціў сваю цнатлівасць.

Скончылася ўсё ягоным вяртаннем на вучобу, а Аня так і засталася ў сваёй краме ў далёкай паморскай вёсцы, і як склаўся яе далейшы лёс — ён не ведае. Хоць упэўнена цешыць сябе думкай: шчаслівая, бо жадае ёй толькі шчасця.

І была яшчэ трэцяя, а насамрэч — першая, Аня, бо яна вучылася разам з ім на адным курсе, больш за тое — у адной групе.



Фота pxhere.com

На паступленні ён яе не заўважыў, разгледзеў толькі на іхняй першай бульбе. І пасля таго, як пачуў ейны голас — яна спявала пад гітару ля іхняга сумеснага курсавога вогнішча, зразумеў: вось яно, тое, што ён шукаў. Яны пасябравалі, жылі разам — здымалі адну кватэру. Сварыліся і разыходзіліся, сыходзіліся зноў і зноў сварыліся. Было ўражанне, што яна проста гуляе з ім. І яно, гэтае ўражанне, апынулася не падманным, бо ў першы ж месяц па заканчэнні ўніверсітэта Аня выйшла замуж за нібыта выпадкова сустрэтага (а, можа, гэта так і было...) у кавярні на вяселлі сяброўкі хлопца. Выскачыла, быццам і не мела яго заўсёды побач, забыла адразу...

І ён вярнуўся ў свой горад самотны і з жаданнем не жаніцца ніколі.

Так і было б, калі б аднойчы на ягоную працу да свайго бацькі — ягонага суседа па сталах, не зайшла... тая самая Аня з паралельнага «Б»-класа.

Яна пасталела, яна паспела пабыць замужам. Наўдала. Апякласся і таксама збіралася больш за нікога не выходзіць. Але ў яго прачнулася раптам забытая цікаўнасць да яе. А яна чамусьці часцей пачала заходзіць да свайго бацькі на працу, а потым ён з Аняй разам вярталіся дамоў, бо жылі ж побач... Гулялі па горадзе, кожны раз выбіраючы новыя вулкі, якія ўсё падаўжалі і падаўжалі іхні шлях... Таму аднойчы раптам паўжартам, а насамрэч усур’ёз, яе бацька за кубачкам кавы ў офісе сказаў ім: а чаму б вам не пабрацца? Яны падумалі і — пабраліся.

І вось ужо заўтра яны адзначаць разам з дзецьмі і ўнукамі залатое вяселле, пражыўшы ў шчасці ды згаладзе ўсе гэтыя гады.

Тым, хто расчараваны такім паваротам, на заканчэнне скажу, што і ягоную жонку — каханую Ганульку! — праз усё жыццё таксама суправаджалі мужчыны з адным і тым жа — ягоным! — імем, у што вы, вядома ж, не паверыце.

І яшчэ, згадваючы показку-параду з самага пачатку, расчарую вас, застылых у чаканні працягу — здрадаў з паўтарэннем аднаго і таго ж імя — каханак у яго не было: ні Ганнаў, ні нейкіх іншых. Ягоная Ганулька стала для яго адзінай, адзіным закаханнем, як і ён для яе.

О, як гэта не сучасна, ідэалістычна і не падобна да праўды, зноў скажаце вы.

Так і ёсць, адкажу вам: праўда заўсёды не падобная да праўды...

## Учора і заўтра

1.

паміж няма нічога — нічога няма:

ці не таму, што заўтра ніяк не ўплывае на ўчора, і адзіны міжпланетны карабель пад назовам Месяц таксама сёння знік

і не за хмарамі, а проста яго не стала на небе, як і не было ніколі

нічога няма на небе, ні зоркі... толькі цемра вакол, хоць біся аб яе, як аб сцяну: нават навобмацак яна адчувальная — настолькі густая, тугая, што можна рэзаць нажом

з чым яе параўнаць, гэтую цямноту-чарноту — з апошнім трамваем, які так і не прыйшоў?

з непрачытанай кнігай? з ліфтам, які сарваўся і падае? з «сумленнем фашыста»?

ці... з табой, што знікла за паваротам і пакінула мяне?

бо між намі цяпер нічога няма — толькі цемра сярод белага дня

і не ратуюць тыя сто гадоў, якія яшчэ давядзецца нам пражыць: мне без цябе, табе без мяне

вакзалы разбягаюцца рэйкамі ва ўсе бакі вялікай краіны з назовам Зямля

аэрапорты разлятаюцца самалётамі, парты́ расплываюцца караблямі

а я ўсё сяджу пасярод шчыльнагумавай цемры ночы

і чакаю апошняга трамвая, хоць даўно ўжо зразумеў, што ён не прыйдзе

і гэта няпраўда, што між намі зусім нічога няма

між намі кіламетры глупства і дурноты, тваёй упартасці і маёй стрыманасці

тваёй разбэшчанасці і маёй... цноты

тваёй усёдазволенасці і маёй веры, што я магу змяніць цябе

ну, калі не змяніць, дык хоць бы паўплываць з надзеяй на змены

на змены да леп..., зрэшты, не важна гэта

бо...

бо я кахаю цябе

кахаю такую, якая ты ёсць, кахаю, ведаючы пра ўсіх тваіх каханкаў і ўсе твае «любові», даруючы ўсё — і ты гэта ведаеш

але ад сёння — між намі няма нічога: нічога няма

толькі недзе ў нябачных аблоках лунае ў жаданні сарвацца на дол і разбіцца ўшчэнт маё каханне да цябе

я ведаю, што нават калі загіну на рэйках пад коламі першага з гэтай ночы трамвая, ты не заплачаш і не пашкадуеш

ты проста не заўважыш гэтага, ты будзеш і далей жыць, як жыла ў сваім памкненні браць ад жыцця ўсё, што яно табе дае, захлынацца ў жарсцях, а... папросту спальваць тое самае жыццё бестурботна, бесклапотна, безаглядна, бяздумна... і лічыць, што ўсё ты робіш правільна, а я проста ідыёт, рамантык, кніжны чалавек з мінулага стагоддзя...

ну і як мне жыць далей з гэтым веданнем?

як пасля гэтага мне пераканаць сябе не скочыць з маста ў раку, не кінуцца пад цягнік, як увогуле застацца жыць?

усведамляючы, што між намі не проста нічога няма, а:

між намі ніколі — ні-ко-лі — нічо-га не будзе.

2.

я памятаю цябе іншай, я ведаю цябе іншай

але я прымаў цябе той, якая ты была, і прымаю цябе гэтай — такой, якая ты ёсць сёння, бо для мяне і праз сорак гадоў ты засталася... той самай: каханай

так, я таксама не той, якога ты памятаеш, якога ты ведала, хоць і застаўся тым самым, асабліва, калі зноў апынаюся побач з табою: не паразумнеў ні трошкі

мы дарослелі і сталелі — змяняліся, застаючыся ранейшымі, — разам

не, даруй, трохі не так... зусім не так: на жаль, не разам... а паасобку, кожны ў сваім жыцці

чаму «на жаль»? гэта проста: таму, што не разам; чаму так сталася, што не разам? вось гэта важней

самім сабе пра тое расказваць цяпер не варта, бо ў кожнага свая праўда, бо могуць пачацца пошукі вінаватага, апраўданні і самаапраўданні, хоць насамрэч апраўдання няма, а праўда адна — вінаватыя абое, кожны па-свойму

я — што не быў настойлівым і нахабным

ты — што, мажліва, была занадта недаверлівай і... недальнабачнай

я — што быў няўпэўнены ў сабе і... абраў не напор, а чаканне

ты — што была занадта патрабавальнай да свайго будучага абранніка

я — што быў заўсёды побач...

ты — што амаль не заўважала гэтага, ці рабіла выгляд, што не заўважаеш, і лічыла мяне проста суседскім хлопцам, хоць не магла не заўважаць маю цікавасць да цябе: па тваіх міжвольных прыязных позірках я бачыў, што ты заўважаеш яе, маю цікавасць да цябе, і... гэта пакідала мне надзею

я цябе кахаў, але бясконца сумняваўся, ці зможаш пакахаць ты мяне, я і сёння няўпэўнены, ці думала ты калі пра мяне, як пра магчымага... не, не мужа — да гэтага было яшчэ далёка — як пра магчымага сябра, хай будзе так... сябра, бліжэйшае знаёмства з якім, мажліва, прывядзе да той самай цікавасці да яго, а потым — бясконца мажліва — і да кахання

толькі тады можа ўзнікнуць узаемнасць, бо менавіта гэтага я хацеў

так, я хацеў не проста кахання, а кахання ўзаемнага, а баяўся «кахання» па разліку ці... па безвыходнасці — таму, што іншага выбару няма; а ў дзяўчат, асабліва ў тыя, нашыя, гады было такое, што прыходзіў час ісці замуж, бо ўсе сяброўкі вакол пабраліся, і сядзець «у дзеўках» соромна... і тады забывалася слова «каханне» і нейкія прынцыпы, важныя раней...

Заканчэнне на стар. 5 »

# Фрэскі

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 4

але я ведаў, я дакладна ведаў, што ўзаемнае каханне — самае рэдкае з таго, што можа быць між хлопцам і дзяўчынай, бо найчасцей прыцягненне ці каханне бывае аднабокім: ты кахаеш, а цябе не, але з нейкіх прычынаў яна прымае тваю ўвагу і тваё каханне і робіць выгляд, што таксама кахае... альбо наадварот — цябе кахаюць, а ты — не, але, зноў жа, з нейкіх прычынаў ты прымаеш тое каханне і адказваеш згодай, нават не кахаючы

сцерпіцца-злюбіцца?.. так... кажуць нават, што менавіта такія сем'і самыя моцныя, але я ў гэта не веру, бо такіх шлюбаў большасць, і праз год-два распадаюцца тры з чатырох...

неўзаемнае каханне вельмі хутка пераўтвараецца ва ўзаемную нелюбоў, а потым і нянавісць

узаемнае каханне найчасцей альбо прыходзіць адразу: пры першай жа сустрэчы, як маланка праскоквае між двума сэрцамі... і тады ўсё зразумела, бо хлопец і дзяўчына і дзень пражыць не могуць адно без аднога; альбо — з часам, пасля доўгіх гадоў сумеснага жыцця

у нас не было і не магло быць ні аднаго, ні другога, а значыць, я разумею цяпер, шанцаў я не меў ад пачатку

таму, дзякуй Богу, што між намі сталася так, як ёсць, і што і праз сорак гадоў мы захавалі цікавасць адно да аднога, якую толькі цяпер можна назваць узаемнай

...і ўсё ж — шкада, бясконца шкада, што нашае заўтра прыйшло не ўчора...

## «Трыванне»

першы сіні лядок — крохкі, як мая радасць ад сустрэчы з ім — абсалютна ўпэўнены ў сабе, напружана лавіў кожны нервовы ўздых вады пад сабой і стараўся люстэркава адбіць у неба халодныя промні позне-кароткага восеньскага сонца, каб яно не загубіла ягоную надзею на доўгае зімовае жыццё

я пачуў ягоныя трывожныя думкі, я ўлавіў лёгенькае трымценне ягонага страху перад наступным маім крокам... і спыніўся

ён быў прыгожы, гэты першы сіні лядок — крохкі, як маё шчасце — але, прызнаюся, я спыніўся не таму, што пашкадаваў яго

пад тонкім шклом лядку, у глыбінях вады, я раптам убачыў свой застылы белы-белы твар з шырока расплюшчанымі вачыма, вакол якога павольна, бы жывыя, варушыліся пад нябачнай плынню мае валасы... а таму і не стаў выпрабоўваць на трываласць кволую моц першага сіняга лядку — крохкага, як мой лёс

## «Зімовае»

снег ідзе так сур'ёзна, быццам выйшаў на вайну і хоча пакарыць і пакараць усё навакол, заняць сабой і канчаткова заваяваць горад

дрэвы ўздоўж вуліц ужо скарыліся яму, сагнулі спіны, бы ўраз пастарэлі і пераўтварыліся ў бабулек і дзядулеў, што стаяць у чаканні светлафора, каб перайсці на другі бок, хоць там не лепей...

статак машынаў рухаецца няспешна, як каровы, што вяртаюцца вечарам з пашы

людзі сонна, як мухі, слізгаюць па снежнай кашы, і ногі не слухаюцца іх, як чужыя, постаці паўзуць марудна, быццам кожны нясе за плячыма нешта цяжкое

усё запаволілася, нават час аддаўся на волю сняжынкам, якія кружляюць, а потым павольна і шчыльна, надзейна кладуцца адна да адной

снег усё ідзе ды ідзе

сур'ёзна — стабільна — нібы хоча застацца тут назаўсёды, як...

## «Ахоўнік»

я ведаў, што ты за мною сочыш

я адчуваў гэта спінай, халадком між лапаткамі, спацелай патыліцай, дрыжыкамі, якія прабягалі скрозь усё цела, быццам мне было халадна, хоць насамрэч — горача

не ведаю, колькі метраў было між намі — дваццаць? сто? — бо ты трымаўся на адлегласці і не паказваў сябе, а дрэвы і падлесак надзейна засланялі цябе; ты быў вопытным паляўнічым і не раз перахітрываў зайцаў, казуляў, дробных птушак — інакш табе не выжыць тут

не думаю, што ты паляваў на мяне

хутчэй гэта была наіўная цікаўнасць: што гэта за двухногае стварэнне, выцягнутае ўверх, у неба, як дрэва, а не ўздоўж зямлі, як усе нармальныя істоты вакол, з'явілася раптам на тваёй тэрыторыі, адбітай у супернікаў, адваяванай у іншых ахвочых; ці не прэтэндуе гэтае стварэнне на нешта і ці не давядзецца і з ім змагацца за сваё ўладанне? а дзеля гэтага варта было прасачыць за ім, каб пабачыць ягоныя верагодныя слабасці і магчымыя перавагі

лес, у якім я спыніў сваю машыну і выйшаў прагуляцца, быў мне зусім незнаёмым, чужым і даволі глухім, я ведаў з мапы толькі, што ад месца, дзе я спыніўся, да бліжэйшай невялічкай лясной вёскі больш за дзесяць кіламетраў, а да бліжэйшага горада і ўсе пяцьдзясят, а значыць, на дзясяткі кіламетраў вакол цяпер тут нікога няма, апроч... апроч таго, хто за мною сочыць

я спыніўся тут наўмысна, мне абрыд назойлівы шум гарадоў, які не сціхае нават ноччу, мне захацелася ўнурыцца ў нечапаную, забытую людзьмі тэрыторыю, каб узгадаць тую цішыню, якую я памятаў з дзяцінства, калі праезд па нашай вуліцы на гарадской ускраіне аднаго аўтамабіля ці матацыкла быў для дзятвы падзеяй, бо нам даводзілася пакідаць нашыя гульні пасярод дарогі, разбягацца, рассупацца... а таму я не мог не скарыстацца магчымасцю збочыць з трасы і заехаць сюды ў векавы, нечапаны бор

я павінен быў разумець ад пачатку, што ён сустрэне мяне варожа, бо тут свой спрадвечны ўклад, свае адвечныя традыцыі, выпрацаваныя калі не стагоддзямі, дык апошнімі бязлюднымі дзесяцігоддзямі, і свае гаспадары; тут кожны кожнага ведае і ніхто нікога, тым больш мацнейшы слабейшага, старэйшы малодшага не дасць у крыўду

прынамсі, без патрэбы

а таму кожны новы незнаёмец, чужынец не застанецца без пільнай увагі

мне варта было б нейкім чынам падаць табе знак, што я ні на што не прэтэндую, што я выпадковы вандроўнік, што я нават грыба не крану ў тваім лесе, не сарву ніводнае ягадкі — хай застануцца тваім суседзям, я проста пабуду сярод вас і з'еду назад у свой абрыдлы горад

я стаяў пад сто-двухсот-трохсотгадовым дубам, глядзеў на вясёлую сямейку баравікоў — прыгожых, крамяных, нібы намаляваных і сышоўшых са старонак дзіцячае кнігі, бачыў непадалёк другую, а за ёй трэцюю не менш маляўнічую чародку, і лавіў вушамі, усім целам, цішыню, якая была зусім не цішынёй у звычайным значэнні гэтага слова, а напоўненай ляснымі гукамі і шолахамі музыкай — той музыкай жыцця, якую слухаць не пераслухаць, якой наталяцца не наталіцца

шчэбет птушак, у якім я вылучаў пазнавальны голас дразда, далёкае куванне зязюлі, часценькі, з кароткімі перапынкамі стукат дзятла, варушэнне вавёркі ў вышыні дрэваў у сваім дупле, тупаток вожыка недзе зусім побач, які, пэўна, толькі ў казках збірае грыбы ды ягады, і... пасопванне, лёгкае, стоенае дыханне таго, хто за мною назірае...

зразумеў, пачуўшы цябе, што магу зрабіць цяпер толькі адное: вярнуцца да сваёй машыны, сесці ў яе і з'ехаць, апошні раз парушыўшы рокатам матора гэтую адвечную немаўклівую цішыню

што я і зрабіў

і калі павольненька ад'ехаў на дваццаць-пяцьдзясят-сто метраў, ты выйшаў на край дарогі і доўга-доўга глядзеў мне ўслед: так маці праводзяць сваіх дзяцей з вёскі ў горад

## Сталасць

О, як пастарэла, сагнулася — адзінокая хвойка каля дарогі дамоў, да роднае вёскі.

Паменшала, згорбілася, як стогадовая бабулька.

У шырокім полі ўсе вятры абдзімаюць яе — зрэдку ласкава, шкадуючы абдымаюць, часцей злосна-жорстка хіляць далоў, бо стаіць яна заўсёды на іхнім шляху і не дае разагнацца на ўсю моц.

Гляджу на яе, пазнаю праз гады, любуюся ёю і думаю: старэюць не толькі людзі, не толькі нашыя аднагодкі і мы, разам з намі старэюць дрэвы і вёскі.

І толькі гарады старэючы — маладзеюць...

## «Нуль»

як часта даводзіцца нам адчуваць сваю адзіноту ў гэтым свеце, здавалася б, нічым не выкліканую, нічым не пацверджаную, не асэнсаваную нават, але адзіноту, якую ты чуеш нутром, а не галавою, бо мозг бачыць вачыма людзей вакол, бо вушы чуюць галасы побач, больш за тое — цябе вось толькі што штурхануў нехта, адсунуў са сваёй дарогі перашкоду, якой зрабіўся ты,



так, ты стаў камусьці перашкодай, бо адчуў раптам такую невыказную самоту сваю сярод гэтых дзясяткаў людзей, чужых табе кожную папярэднюю хвіліну і кожную наступную,

але табе самотна не таму, што яны чужыя табе, сярод іх могуць быць нават даўно знаёмыя твары ці твары знаёмых, толькі ты бачыш іх і не бачыш, ты не адчуваеш іх блізкасці, роднасці, ды табе і не трэба гэта,

табе, як гэта ні дзіўна, камфортна ў тваёй адзіноце, і нічога іншага ты не жадаеш у гэты момант, у гэтыя хвіліны, і табе нават у думкі не прыходзіць паспрабаваць зразумець, чаму цяпер так самотна сярод гэтых людзей, большасць з якіх абсалютна не ведаюць адно аднога, і таму ім не адзінока ў гэтай мітусні, якая ледзь не фізічна знішчае іх, ператвараючы ў масу, у натоўп, дзе кожны ўжо не адзінка і нават не нуль, а ўвогуле нішто,

нішто, бо вылучыць яго ў гэтым... не, не ў мурашніку, не, не ў вуллі... у гэтай куламесе, катлецілне людзей, у гэтым фаршы ўжо немагчыма...

можа быць, якраз адчуваючы гэта, але не разумеючы да канца, мы і робімся такімі самотнымі і адзінокімі не на самоце і адзіноце — у лесе, у полі, у стэпе, у гарах, у пустэльні... а ў натоўпе, звычайным гарадскім натоўпе, які ператварае нас у пясчынку, пылінку, у нуль,

нікому непатрэбны нуль... а нам усё ж так хочацца нешта значыць у гэтым жыцці:

быць адзінкаю — хай і адзінокаю.

## «Замова»

словам сваім ты ўдарыў мяне так, што я адляцеў на метр, зачапіўся за крэсла і ўпаў на спіну, галавой зачыніўшы дзверы

ха-ха-ха! — пачуў я, калі вярнуўся да свядомасці — ты яшчэ рагатаў, значыць, палёт мой у непрытомнасць быў кароткім, літаральна пару секундаў

ты не спалохаўся, ты радаваўся сваёй моцы, цябе рассмяшыла маё падзенне, нішто ў табе не варухнулася ў бок спагады да яшчэ нядаўна не чужога табе чалавека, які, сцяўшы вусны ад болю, ляжаў на падлозе не ў змозе падняцца

ты не падаў мне руку

я ляжаў з заплюшчанымі вачыма і ўспамінаў, якое ж тваё слова так моцна ўдарыла мяне, так штурханула, так адкінула мяне — і не мог яго ўзгадаць: мая памяць засталася недзе там, у мінулым, і не вярталася да мяне

крыўда на цябе паступова перарастала ў крыўду на сябе самога — бездапаможнага, як перакуленая чарапаха, як жук, што ляжыць дагары лапкамі і смешна варушыць імі

я зразумеў, чаму ты смяешся

і ты выляцеў праз акно, на развітанне неўразумела рагатнуўшы і пырснуўшы слінай мне ў твар

спадзяюся, і ты не запомніў, не паспеў усвядоміць маё слова, якое выкінула цябе з...

## Туман

чужымі дарогамі хадзіў ты доўга

і не было нідзе таго шляху, які ты назваў бы сваім

ты так і не спаткаў яго, не набрыў на яго, і не таму, што ішоў ты туманам шызым, як твае жыццё

але не... не толькі туманам

было — свяціла сонейка ўдзень, а ноччу старалася поўня, і ноччу, бывала, ты бачыў далей, чым удзень

бачыў усё, бачыў шмат, яшчэ болей разумеў, аднак так і не зглядзеў наперадзе ці побач сваёй дарогі

так і прайшло жыццё ў бадзянні па чужых дарогах, па чужых шляхах

і толькі калі да твайго ложка падышла бабуля з касою, ты нясмела спытаўся ў яе: ці не памылілася яна — ці не да іншага ішла, а заспела яго на чужой дарозе?

адказу ты не пачуў

але зразумеў, паспеў зразумець адлятаючы, што, нарэшце, што ўсё ж... што хоць напрыканцы...

...збіўся з чужое дарогі

на сваю

## Горад

ён так часта клянецца ў вернасці, хінецца да ног, як шчанюк, а потым кладзе лапы на плечы і ўзіраецца ў вочы так міла-страшна...

таму ніхто не верыць у шчырасць ягоных словаў і прызнанняў, а сяброўства з ім заганнае, бо ён, гуляючы, можа ўкусіць, а можа і абгаўкаць манюю

гораду ніхто не давярае свае думкі, бо іх адразу ж пачуюць усе, хто ў ім жыве

горад, не важна, стары ці малады, мае віжоў на кожным кроку, за рогам любога дома цябе чакае неспадзяванка, а самае галоўнае — добрыя русалкі жыць у ім не хочуць, а дрэнныя не запрашае ён сам

таму ты так і не любіш горад і параўноўваеш яго ўжо не са шчанюком, а са злым сабакам без ланцуга

## Дарога

правер сябе — адчыні вакно і стань на падваконне

працягні нагу ў пустэчу перад сабой і абапрыся на яе...

я таму не хачу жыць высока, што не магу пераадолець гэтае жаданне — ступіць у нішто

не паверыце: кожны раз я спыняюся толькі таму, што баюся не адчуць, не знайсці апору пад нагой і ўпасці ўніз

я не веру самому сабе, не веру ў тое, што варта працягнуць нагу ў пустэчу, як пад ёй адразу з'явіцца дол, нябачная дарога, якая...

...і тут я веру: ...вядзе да неба

***17 ліпеня ў пісьменніка і выдаўца Барыса ПЯТРОВІЧА (САЧАНКІ) — 65-гадовы юбілей.***

***Шчыра віншуем і жадаем нашаму паважанаму аўтару бьщцёвай трываласці, летніх радасцяў і творчай нястомленасці!***

# Вінаватая Аўдоцця

« Працяг.
Пачатак на стар. 1

***

Аўдоцця абвяла позіркам хату. У цемры відаць былі толькі абрысы вокнаў, як чатыры здані, якія штонач былі побач са старою. Цішыню ночы часам парушалі цвіркун недзе за печчу ды рыпенне спружын старога ложка пад старэчым целам. Аўдоцця падумала, што варта сказаць заўтра Аленцы пра тое месца на вясковых кладах, што подаўна нагледзела Аўдося для сябе. Каб паклалі яе, калі акалее, паміж Ладзем і Казікам. Калі акуратна капаць, то там можна ўцiснуцца. Не хочацца быць сярод новых дзялянак на могілках, хочацца быць побач з роднымі. Можа, хоць там яна супакоіцца, можа, там выбачаць яе і прымуць да сябе як след. Старая ведала, што такімі сумнымі справамі будзе займацца не хто іншы, а менавіта Алена. Дзеці і ўнукі далёка, пакуль прыедуць, і ці паедуць у такую далячынь.

Сон даўно абмінае старую хату, таму Аўдося дае волю ўспамінам…

***

У тую раніцу нядоўга сядзелі яны пад шатамі ялін. Бо раптам наляцеў вецер. Ельнік трывожна загойдаўся, дрэвы нешта шапталі трывожна. Можа, яны са сваёй вышыні бачылі палаючую вёску, мо бачылі забітых і параненых? Да ўцекачоў з ветрам даляцеў толькі смурод ад пажарышчаў, а неўзабаве зноў пачуўся сабачы брэх.

— Аўдоська, уставай. Трэба бегчы. Чуеш? Сабакі ў наш бок вядуць, — Ладзя яшчэ нешта хацеў сказаць, але быццам больш слоў не знайшлося, і ён жэстам рукі паказваў, што трэба падымацца, трэба ісці далей.

— Ладзік, знайдзі што ў сваім клунку, трэба хлопчыка закруціць у сухое, каб гарачка якая не прыхапілася, ён і так з ночы мокры быў, я ж не паспела пялюшкі змяніць. А яшчэ сама, дурэпа, плюхнулася ў гразь разам з маленькім.

Муж разгарнуў клунак, дастаў нейкую кашулю ды саматканую посцілку.

Аўдося спрытнымі рухамі зрабіла ўсё патрэбнае і ўзнялася з купіны…

Пушча сустрэла гасцінна. То тут, то там на вочы трапляліся крамяныя баравікі, чарнічнікі вабілі буйнымі ягадамі. «Бульба і збожжа на палях засталіся, можна неяк будзе пракарміцца. А яшчэ бацька Рагулю прывядзе, нейкая рада будзе. А яшчэ ў лесе сёе-тое можна знайсці, — так Аўдоцця разважала ў сваіх думках, — толькі б малы быў дужы, каб не захварэў, ці на бяду шмат патрэбна…»

Уцекачы дайшлі нарэшце да запаветнай выспы, пра якую казаў свёкар. Мінуў час, хутка вечар. Ладзік пачаў будаваць будан для начлегу, сцізорыкам зразаў голле і лапнік і ўзводзіў часовае лясное жытло.

Дзіця заснула, Аўдоцця паклала каштоўны клуначак побач з амаль гатовым буданом, сама ж пачала збіраць чарніцы ў ёмісты козуб, што зрабіў ёй Ладзя з ладнага кавалка бяросты.

Уначы было даволі холадна. Запалак, каб зацепліць вогнішча, не мелі. Ніхто не заснуў у тую ноч. Дзіва што, такі трывожны дзень, ды галодная і халодная ноч. Нават малы не заснуў, увесь час ціхенька плакаў. Аўдося дакранулася вуснамі да ўзмакрэлага лобіка.

— Ладзя, мабыць, гарачка… Што рабіць?

— Нічога, можа, абыдзецца. Прыйдзе тата, можа, у яго запалкі будуць, сагрэемся. Ежу нейкую згатуем, малачка пап'ем. Усё будзе добра.

Пэўнасць, з якой вымаўляў Ладзя кожнае слова, супакоіла на нейкі час Аўдоццю, яна нават крышачку падрамала.

Пад раніцу пачуліся крокі на ляснай дарозе. Ладзя выйшаў з гушчару і стаў чакаць побач са сцяжынай. Крокі набліжаліся. Раз-пораз да ягоных вушэй даносіліся галасы, сярод іх дзіцячыя і жаночыя. «Пэўна ж, не паліцаі, — падумаў Ладзя, — можа, і тата з імі?»

— Гэй, хто тут ходзіць, — запытаўся Ладзя, калі хадакі амаль параўняліся з ім, — каму дома не сядзіцца?

— А, г-гэт-т-та ты, Ла-ладзік, — голас суседа не зблытаеш, гэта заіка з дзяцінства — дзядзька Тамаш.

— Я, дзядзечка, а з кім вы тут? Ці таты майго не сустрэлі, павінен быў з кароўкай прыйсці.

— Дзіця маё, якая карова! Тут самому б уратавацца. Вёска палае, людзі бягуць хто куды! Страляніна, сабакі… Са мной нікога з чужых, не бойцеся, толькі мая сямейка. А хто яшчэ з табою? — запытаўся дзядзька Тамаш.

— Толькі я з жонкаю і сынам. А можа, у вас запалкі ёсць?

— Ёсць, а што вы без агню? Зараз запалім, будзе як сагрэцца. Дзякуй богу, жывыя засталіся, памяркуем, сплануем, што да чаго. Будзе нейкая рада, дзетачкі.

Неўзабаве да вогнішча выйшлі яшчэ некалькі вяскоўцаў. Плакалі дзеці, моўчкі ў роспачы пакутавалі жанчыны. Мужчыны раіліся, каб уначы пайсці ў вёску і сабраць тое, што магло застацца ад агню і рабаўнікоў. Бо трэба будаваць буданы, трэба неяк жыць. І лепшага месца для паратунку, чым пушча, не знайсці.

Ужо развіднела, калі прыйшоў бацька. Адзін і са скрываўленай рукою, што нерухома вісела ўздоўж цела.

— Тата, ты паранены?

— Драбяза, загоіцца. Карову шкада. Застрэлілі, гады. Я ўжо ля самага лесу быў, а ён, сволач, чаргою лупянуў. А што рука? Костка, мабыць, цэлая, а мяккае зарасце, куля навылёт прайшла.

Так пачалося лясное жыццё вяскоўцаў, якое расцягнулася на доўгія тры гады. Аўдоцця была ўвесь час з сынам. Казік слабеў, амаль не браў грудзей, гарачка не пакідала яго. У роспачы яна была гатовая на што заўгодна, але не



ведала, як дапамагчы дзіцяці. Пра лекі не магло быць і гаворкі.

Неяк пад раніцу дзіця заціхла, супакоілася. Аўдоцця падумала, што заснула, можа, на папраўку пойдзе. Дзіця не варушылася. Яна разгарнула посцілку, і па лесе разнёсся крык параненага звера — Аўдоцця крычала штомоцы, бо пабачыла першынца мёртвым. Яна крычала, лямантавала і галасіла над нежывым цельцам. Побач наўзрыд плакаў Ладзя.

— Гэта я вінаватая, гэта я не зберагла нашага Казіка! — галасіла Аўдоцця. — Гэта я!

— Загарніце дзіця ў посцілку, я ноччу аднясу на могілкі, пахаваю, — ледзяным голасам прамовіў бацька. — Не плач, Аўдоська, будуць яшчэ дзеці, не вінная ты ні ў чым, вайна…

За колькі дзён канчаткова высветлілася, хто з вяскоўцаў застаўся жывы, а хто загінуў пасля аблавы. Мужчыны не баяліся нават удзень хадзіць на пажарышча. Хавалі забітых, прыносілі ў лес усё, што ацалела.

Аўдося перажывала за матулю з меншымі дзецьмі. Яны жылі наводшыбе. Гэта быў не зусім хутар, але яшчэ і не вёска. Маці аўдавела рана, адна гадавала і падымала дзяцей. І вельмі радавалася, калі Аўдоську, нічога што сірату, пакахаў хлопец з добрай заможнай сям'і. Пасля вяселля маці казала: «Са мной ужо толькі чацвёра, старэйшая ўжо за ладам».

Штодня, калі Ладзя з бацькам вярталіся ў лес, яна бегла да іх насустрач, каб запытацца, як маці, як сястрычкі з брацікам. Супакойвала сябе, маўляў, каму патрэбна ўдава з дзецьмі, якая не мае ніякага дачынення да вайны, якая кладзецца спаць з адной толькі думкаю: чым заўтра накарміць дзетак.

Неяк на прыцемку ўжо сталі вяртацца на выспу людзі, і Аўдоська зноў рынулася да сваіх.

— Тата, Ладзік, ну што, можа, былі сёння ў мамы?

— Былі, — Ладзя адвёў позірк убок, у нейкай роспачы махнуў рукою і пайшоў далей да іх будана.

— Татачка, чаму ён нічога не кажа? — кінулася яна да свёкра. — Як яны, што ў іх?

— Аўдоська! Дачушка, трымайся, табе трэ быць моцнай.

— Кажыце ўжо! Што там?

— Не прамінуў ліхі лёс вашу сям'ю і вашу сядзібу. Адна доля з вёскаю — спалілі.

— А мама? Жывыя? Дзе яны?

— Няма нікога, пахавалі ўсіх проста на падворку. Колькі дзён прайшло, гарачыня стаіць. Прабач, але немагчыма было іх на могілкі аднесці.

— Усіх! Тата, усіх?

— Так.

***

Аўдоцця зноў і зноў, як гэта было ўжо тысячы разоў, перабірала ў памяці кожную драбніцу. Чаму яна тады не пайшла да матулі і не папярэдзіла? Чаму не расказала пра тое, што чула тады ад сваяка, які апавядаў пра зверствы фашыстаў, прапаноўваў загадзя хавацца ў лесе? Можа, матуля была б неяк падрыхтаваная да аблавы, мо збегла б з дзецьмі ў лес?

Старая вінаваціла сябе ў тым, што так мала бывала ў мамы тым летам. Што засярodзілася на ўласным шчасці, на ўласнай сям'і, на асабістым шчаслівым жыцці. І вось ёй пакаранне за ўсё. Шчасце было такім кволым і ломкім, што разбурылася ў адзін момант. Больш ніколі за доўгае жыццё яна не спазнала гэтага пачуцця.

Чарговая бясконцая ноч карала яе ўспамінамі і цяжкім роздумам. Яна ведала, што назаўтра нічога не зменіцца і так будзе заўсёды, пакуль будзе яна.

***

Лясная вёска рыхтавалася да зімы. Дыхтоўныя буданы і нават зямлянкі былі ў кожнай сям'і. Нарыхтавалі нешта і з правізіі: сабралі ацалелае жыта, бульбяныя загоны таксама далі нейкі ўраджай. Людзі жылі з верою, што ўсё гэта часова, што прыйдзе час, скончыцца вайна, і яны вернуцца ў вёску, каб адбудаваць яе, каб жыць мірным сялянскім жыццём: працаваць, кахаць, ладзіць вяселлі, нараджаць дзяцей, проста жыць.

На Пакровы да вяскоўцаў завітала невялікая група, чалавек восем, узброеных людзей. Назваліся партызанамі, сказалі, што іх лагер таксама на выспе сярод абшараў Пустэльных балот. Старэйшы з іх, відаць, камандзір, апавёў, што ў іх ёсць зброя, што яны ваююць з фашыстамі і іхнімі памагатымі, робячы вылазкі ў гарнізоны і на чыгунку. Потым з дакорам сказаў:

— Мы там гінем, кроў праліваем за агульнае шчасце і перамогу, а некаторыя па лясах адседжваюцца, як баязліўцы. Хто здольны і гатовы ваяваць, той павінен быць у партызанах, а не хавацца за спадніцамі матуль і жонак.

Вяскоўцы прыціхлі, а агітатар ужо грозным голасам сказаў:

— За колькі дзён мы вернемся з задання, і ўсе хлопцы ды маладзейшыя мужчыны пойдуць з намі. У мяне ёсць усе паўнамоцтвы на тое, каб вы ваявалі, а не зімавалі ў цёплых зямлянках, а за непадпарадкаванне можам і па-іншаму пагаманіць, — ён дастаў з кабуры наган і патрос зброяй перад прысутнымі.

Партызаны сышлі, а людзі зажылі новымі перажываннямі і турботамі. Як быць, што вырашыць? Ад гэтых не схаваешся, мусіш пагадзіцца, калі што, то і забіць могуць. Найбольш гарачыя з юнакоў былі хоць сягоння гатовыя ісці ў партызаны, старэйшыя ж разважалі, як можна выйсці з гэтага становішча з найменшымі стратамі.

Партызаны, як і абяцалі, вярнуліся праз тры дні, чамусьці іх было толькі чацвёра, а старэйшы быў злосны і з перабінтаваным плячом. Моўчкі павячэралі. Толькі потым камандзір паведаміў, што ля чыгункі іх чакалі і ім прыйшлося са стратамі адступаць.

— Ну, што? Гатовы змагацца? — галоўны абвёў жорсткім позіркам прысутных. — Хто з намі самохаць, ці мне прызначыць?

Некалькі юнакоў, нібыта на школьным уроку, пад плач мацярок узнялі рукі.

— Мала. Хто яшчэ пойдзе ў атрад? А ты чаго прыціх? — камандзір паказаў на Ладзю. — З маладой жонкай абдымацца застанешся?

— Таварыш камандзір, ён адзіны сын у мяне, пры аблаве яны страцілі дзіця, а ў вёсцы фашысты забілі ўсю нявестчыну сям'ю, — свёкар гаварыў спакойна і ўпэўнена, — дазвольце я пайду з вамі, а ён няхай застанецца.

— Маеш рацыю, дзядзька, можна і так.

— Вой, татачка, што вы такое кажаце, то давайце разам пойдзем з імі, можа, і я на што спатрэблюся, — Аўдоська гатовая была расплакацца.

— Не, дачушка, не жаночая справа — ваяваць.

Лясны лагер вяскоўцаў паменшаў на колькі чалавек. Яны сышлі ў цемру ночы, не ведаючы нічога пра тое, што прынясе новы дзень. Тады наагул ніхто нічога не ведаў пра дні наступныя, столькі неспадзяванак было наўкола. Трэ было быць даволі дзёрзкім, каб нешта планаваць. Адна думка была ва ўсіх: каб скончылася вайна, каб зноў вярнуцца да звыклага жыцця.

Партызаны наведваліся да вяскоўцаў заўсёды, калі ішлі на свае заданні альбо калі вярталіся з іх. Аўдоська штоpазу распытвала пра свёкра, а потым ужо, мабыць пасля шматлікіх страт з боку партызан, ён стаў таксама хадзіць на іх выправы. Хоць быў ужо немаладым, а ў партызанскім атрадзе больш займаўся гаспадарчымі справамі.

Партызаны спакваля выбралі з вясковага лагера ўсіх мужчын ды хлопцаў. Засталіся зусім дзеці ды колькі дзядоў, для якіх зброяй быў хіба што арэхавы кій, без якога ім ужо нельга было абысціся. Ненадоўга бацька збярог ад партызанкі і Ладзіка, паклікалі і яго.

Заканчэнне на стар. 7 »

# Вінаватая Аўдоцця

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1 і 6



***

Аўдося ўстала з ложка, хацелася піць, ёй падалося, што ад смагі патрэскаліся вусны. Падышла да вядра, навобмацак узяла конаўку і зачарпнула вады. Адпіла некалькі глыткоў і зноў паклыпала да ложка. Чамусьці смага не прайшла. Ёй зрабілася холадна ў звечара пратопленай хаце. Лета выдалася даволі халодным, і на ноч яна звычайна распальвала ў грубцы невялікую абярэмку дроў. А можа, халоднае лета зусім ні пры чым, можа, гэта яе кроў ужо астыла і не хоча грэць старэчае цела? Яна ўхуталася коўдрай і зноў аддалася ўспамінам. Паспрабавала ўзгадаць нешта радаснае, прыемнае…

Вяртанне ў вёску яна добра запомніла. Памятала, калі ў лагер вярнуўся свёкар і паведаміў, што фронт адышоў далёка на захад і для вяскоўцаў няма ўжо ніякай пагрозы. Выратавальны лес зрабіўся ў імгненне абрыдлым. А вёска, няхай сабе і спаленая, вабіла да сябе, клікала. Яна засумавала без людзей і прагнула адраджэння.

Вяскоўцы вярнуліся і апантана пачалі будавацца, хоць некаторы час давялося жыць у ацалелых хлеўчуках ды ў зямлянках. Аўдося памятае кожнае бервяно, з якіх складзена хата. Колькі высілкаў і намаганняў патрабавала ад яе тое будаўніцтва, колькі поту яна праліла ў лесе пры нарыхтоўцы матэрыялу і калі дапамагала мужчынам тут, на сядзібе! Ладзя пасля ранення ў сцягно не быў здатны амаль ні да якой працы. Колькі напакутавалася яна з ім! Але не ўберагла. Не змагла.

Аўдося памятала той чэрвеньскі дзень да драбніц. Яны з раніцы паехалі на сенажаць, каб сабраць прасохлае сена. Работы не так і шмат. Але спяшацца ўсё роўна трэба, яшчэ дождж які наляціць і сапсуе справу. Першы ўкос найкаштоўнейшы. Зраніцы павярнулі сена на другі бок, сонца хутка высушыла начную расу, а пасля абеду ладныя копы ўжо стаялі ў рад, гатовыя да пагрузкі. Дзеці-пагодкі, хлопчык і дзяўчынка, гулялі побач і чакалі, што зусім хутка іх пасадзяць высока-высока, а можа, і лейцы ў рукі дадуць, каб кіраваць канём. Вось складзена апошняя капа, Ладзя падае Аўдоцці, якая наверсе таптала сена, таўсматую жэрдку — рубель, каб уціснуць пахкае сена. Аўдося ўмела таптаць стажкі, добра давала рады і з возам. Яна спрытна ловіць кінутую мужам вяроўку, а той з усяе моцы цягне яе ўніз, а рубель прыціскае паклажу.

— Адзін, два, тры, узялі! — Ладзя радасна крычыць гэтае «ўзялі», і менавіта на гэтым слове робіць максімальныя высілкі, што ажно жылы вылучваюцца на загарэлай шыі.

За некалькі разоў сена прыцягнутае, засталося завязаць вяроўку — і можна рухацца.

— Ну што, жонка, ладны воз атрымаўся, добры прыцяжак! Цяпер няхай атава расце.

— Ладзя, можа, яшчэ давай прыцягнем, каб не развалілася сенца наша дарогаю. Хіба я злезу ды ўдваіх прыцягнем.

— Яшчэ чаго, сядзі ўжо, хіба я сам не дам рады, — Ладзя спрытным рухам развязаў вузел.

— Аддзін, два…

Вяроўка перастала трымаць рубель, і ён, падспружынены сціснутым сенам, узляцеў дагары.

— А-а-а! — Ладзя крычаў, Аўдоцця не магла зразумець, што здарылася.

Галасна закрычалі дзеці, устрывожаны конь затупаў капытамі і спужана заіржаў. Аўдоська села на край і з'ехала ўніз. Ладзік качаўся па зямлі ў лужыне крыві. Яна ў роспачы закрычала, не магла зразумець, што здарылася. Потым спрабавала накласці на нагу нейкую павязку, але рукі не слухаліся. Раптам Ладзя перастаў крычаць, зрабіўся белы, як паркалёвы ручнік, і толькі глядзеў на жонку вялікімі сінімі вачыма, вусны бязгучна малілі пра паратунак.

Не ўратавала! Можа, пяць гадоў прайшло, як быў паранены, і думалася, што ўсё страшнае мінула. Але ж фельчар з мястэчка папярэджваў, што закранутая ашчэпкам гранаты вена зусім кволая, трэба быць абачлівым і асцярожным. У тым партызанскім баі толькі цуд выратаваў Ладзю ад смерці. Дакладней, не цуд, а анёл-ахоўнік у выглядзе дзяўчыны-санінструктара, якая была ў патрэбны час побач і спрытна накалала джгут на пакалечаную нагу.

— Гэта я вінаватая, гэта я прасіла прыцягнуць воз мацней, гэта я не змагла яму дапамагчы! — Аўдося галасіла, але ніхто з прысутных на пахаванні не абмовіўся з ёю ані словам.

— Што ты нясеш, супакойся, гэта вайна вінаватая, а не ты, — сказаў бацька, як адрэзаў.

А Аўдоцця жыла з гэтым пачуццём, баялася глянуць свёкру ў вочы, што праз яе страціў адзінага сына.

«Трэба заўтра з Аленкай пагаварыць», — падумала Аўдоцця. Нейкае прадчуванне ў яе ўзнікла: мабыць, нядоўга ёй засталося, напэўна, яе доўгаму веку надыдзе канец. Хутчэй бы.

Бліскавіца асвятліла пакой, быццам знак які, быццам там, на небе, злітаваліся з яе і прынялі ўрэшце правільнае рашэнне. Аўдося так была занятая сваімі думкамі і ўспамінамі, што не чула, як завывае ў коміне вецер, як ён гуляе з голлем бярозы, што расла побач. Ладзя яе пасадзіў на новай сядзібе, калі нарадзіўся сын.

Вецер узмацніўся, нагнаў навальнічныя хмары, што выліліся на гонтавы дах хаціны спорным дажджом. Аўдоцця слухала шапаценне дажджавых плыняў, звычайна добра спіцца ў такія часы, але гэта не для яе, для іншых, бо спаць яна даўно не можа. Смага зноў сушыла вусны, рот, горла.

Аўдося прайшлася па двары. Кожны крок даваўся з цяжкасцю. Старая абвяла позіркам будынкі. Колькі высілкаў было ўкладзена ва ўсё, а цяпер стала нікому не патрэбным. Дзеці наўрад ці паедуць сюды. Як стараўся свёкар, каб усё было дыхтоўным, не горшым, чым у людзей…

Яна выпусціла курэй, сыпнула зерня і зноў пайшла ў хату. Ногі не трымалі, і яна легла. Змежыла вочы на імгненне і ўбачыла свёкрава аблічча, твар з правільнымі рысамі і вочы, такія ж вялікія і ясныя, як Ладзікавы. Вось хто яе падтрымліваў у жыцці, дапамагаў! Пасля ягонага зыходу ўсё перайначылася, яна была нікому не патрэбнай: дзеці з'ехалі, а чужыя людзі мала ўвагі надзялялі старой Аўдоцці.

Потым шмат разоў паўставалі перад ёй пытанні да самой сябе. Чаму не паклікала ў свой час доктара? Чаму не намагалася, каб свёкар лёг у бальніцу? Чаму не пайшла той зімою разам з ім на дзялянку, каб дапамагчы ў нарыхтоўцы дроў? Чаму..?

— Я ж ніколі не хварэў, што ты, дачушка, так турбуешся за мяне, — супакойваў ён Аўдоццю. — Нічога, што злёг, прастыў проста, мажліва, нават запаленне, але я моцны, мяне ж нават у вайну ў лесе хваробы бокам абыходзілі, ачуняю.

Не ачуняў, згарэў за некалькі дзён…

Аўдося вырашыла канчаткова: сёння яна папросіць Аленку, каб паклікала якога папа. Яна была абыякавай да любой рэлігіі, так склалася яе гаротнае жыццё. Ніколі яна не шукала падтрымкі ні ў небе, ні на зямлі. Трымала ўсё ў сабе, так і жыла днём сённяшнім, ды яшчэ з днямі мінулымі, пакутнымі і цяжкімі, што цугам цягнуліся за ёю па жыцці, не жадаючы адпусціць яе ў дзень заўтрашні. А яшчэ адвечнае пачуццё віны за Казіка, за Ладзю, за сям'ю, за свёкра… Яна так ужылася з гэтай думкай, што вяскоўцы за вочы да яе імя заўсёды далучалі слова «вінаватая». Аўдоська Вінаватая — гучыць як прозвішча, а не як мянушка.

Урэшце пачуліся доўгачаканыя гукі: рыпанне, бразгат і цокат абцасаў.

— Вітаю, бабулечка, гэта я, — Аленка адразу пачала завіхацца ля стала, даставала з торбы нейкія пакункі.

— Вітаю, дзіцятка, а чаму так доўга не ішла да мяне?

— Што значыць «доўга»? — здзіўлена адказала Аленка. — Я заўсёды ў такі час прыходжу, па мне можна гадзіннік звяраць, я пунктуальная.

— Значыцца, цяпер для мяне не толькі ночы даўгія, але і дзянькі. Мабыць, мала іх для мяне засталося. Урэшце…

— Ну што ты такое кажаш?

— Кажу тое, што ведаю. Аленка, можа, пакліч мне папа якога. Людзі кажуць, што так трэба перад смерцю. Не тое каб я ў чым спавядацца хацела, але хоць для формы, дзеля людзей, каб не казалі потым, што Аўдося бязбожніцай адышла.

— Добра, калі трэба, то знайду каго. З суседняй вёскі святар наўрад ці паедзе, але тут ёсць адзін знаёмы, той пэўна пагодзіцца прыйсці. Я так разумею, для цябе не мае значэння, якая царква, абы святар.

— Мне без розніцы, абы пагутарыць. Пакліч.

Аленка паставіла на стол ежу, але Аўдося адмовілася. Аддала нейкія распараджэнні наконт грошай, што адкладваліся на пахаванне, наконт месца на могілках і яшчэ пра пахавальны клунак, які даўно прыгатаваны самой Аўдоццяй і ляжыць у старым куфры.

— Труну купі самую танную, усё роўна ў зямлі згніе. Што з грошай застанецца, на сябе патраціш.

— Бабуля, а можа, я дзецям патэлефаную ці тэлеграмы адаб'ю? — няўпэўнена прапанавала Алена. — Хіба табе не хочацца пабачыцца з імі?

— Я-то хачу, я б вельмі хацела на іх хоць вокам глянуць, але ці яны захочуць ехаць у такую далячынь і ці дачакаюся?

Алена пабегла па сваіх справах, а старая зноў засталася сам-насам са сваімі роздумамі і ўспамінамі. Сягоння яны ўжо не былі такімі цяжкімі, як учора. Толькі надвячоркам яна яшчэ раз выйшла з хаты, каб зачыніць хляўчук з курамі, што падрыхтаваліся ўжо на начлег на седале. Для самой Аўдосі надвячорак перайшоў у ноч, ноч змянілася раніцай, наступіў звычайны, нічым не адметны новы дзень, што быў адмераны ёй лёсам. Адзін з тысяч пражытых ёю дзён, з тымі ж успамінамі, дзе той самы боль і тыя самыя пакуты.

Аўдося пачула крокі. Не, гэта не Аленка. У дзверы пастукалі. Яна не паспела адказаць, як на парозе паўстаў маладжавы мужчына ў прыгожым гарнітуры з тоўстай кніжкай у руках.

— Можна да вас, Аўдоцця Макараўна?

— Можна, вы нават ведаеце, як майго бацьку звалі. Даўно мяне так не называў ніхто. А вы хто будзеце? З чым да мяне завіталі?

— Алена папрасіла, каб зайшоў да вас. Мяне завуць Аляксандр. Яна казала, што хочаце са святаром пагутарыць. Сама яна завітае да вас сягоння пад вечар, у яе нейкія тэрміновыя справы. Але калі вам патрэбна нейкая дапамога, дык я з радасцю.

— Так вы святар? А я ўяўляла, што прыйдзе чалавек у расе.

— Не абавязкова.

Святар узяў зэдлік і паставіў побач з ложкам, на які прысела Аўдося. Яны доўга, ці не да самага вечара, правялі ў размовах. На адыход здзейснілі сумесную малітву. Аўдосі размова падалася лёгкай, яна нават часу не заўважала. А ўспаміны сёння, на дзіва, не выклікалі пачуцця віны, і ад іх яна зусім не пакутавала. Быццам цяжар зваліўся з яе старэчых плеч. Чаму яна раней не паклікала гэтага чалавека да сябе?..

Зноў Аўдося адна. Добра, што зайшоў гэты чалавек, добра, што пагутарыў з ёю, выслухаў, падтрымаў. Ці то ад агульнай стомы, ці ад палёгкі, што атрымала, яна ненадоўга заснула. Прачнулася тады, калі Аленка ўжо завіхалася ў пакоі.

— Аленка, дзякуй табе.

— За што падзяка, бабуля?

— Быў у мяне святар.

— І як ён табе?

— Разумны, умее слухаць, умее гаварыць. Маё імя па бацьку ведае, уяўляеш? Маліўся за мяне. Усё як след зрабіў, адразу палёгка на сэрцы.

— Не разумею, ад чаго палёгка?

— Ад таго, што я ні ў чым не вінаватая. Гэта такое жыццё, такі мой лёс, такі мой крыж…

— Ну вось і цудоўна, а то ты заўсёды пакутавала ад віны, хоць напраўду і не твая гэта віна. Добра, што Аляксандр пагутарыў з табой.

— Канешне ж, добра, а яшчэ ён казаў, што прыйдзе час — і я буду побач са сваімі, прычым не толькі на могілках.

— Не спяшайся, бабулечка, усё ў свой час. Набярыся цярпення.

— Куды я падзенуся, не столькі цярпела і не столькі чакала. Аленка, калі памру, пакліч яго. Ён казаў, што прыйдзе справадзіць у апошні шлях.

— Бабуля, усялякае тваё жаданне будзе выкананае. Але я маркую, што цябе яшчэ чакаюць сюрпрызы.

— Не выдумляй, дзіця, не трэба мне нечаканасцяў. Усё ў маім жыцці прадказальнае: ноч да раніцы і дзень да вечара. А колькі ў мяне будзе тых дзён і начэй, вырашаюць не тут, а там, — Аўдоцця з задуменным выглядам паказала на закурэлую столь.

— Добра, адпачывай, заўтра прыйду. Бывай!

Аўдоцця сніла прыгожы сон. Бачыла сябе, маладую яшчэ. Яна ідзе з дзецьмі, узяўшыся за рукі, залітым сонцам поплавам. Трава прыемна казыча ступакі. Яны пра нешта гучна гамоняць, вясёлае шчабятанне дзяцей напаўняе прастору. Дзеці вырвалі рукі з яе далоняў, гарэзліва бегаюць па мурагу, гуляюць з дзьмухаўцамі. Адбеглі даволі далёка, яна амаль не бачыць іх, толькі чуе галасы. Яна трывожыцца і кліча іх да сябе, называючы імёны. І яны бягуць да Аўдосі з гучнымі воклічамі: «Мама, мама…»

Мінула яшчэ колькі падобных адзін на аднаго дзён. Нічога адметнага не адбывалася ў жыцці Аўдосі, апрача таго, што стала спаць начыма, пакрысе пачала есці прыгатаваную Аленкай ежу, нават неяк адужала, галава зрабілася яснай і светлай. Даўно такіх адчуванняў не было ў яе жыцці, мабыць, такой і павінна быць старасць.

Надыходзіла раніца чарговага дня. За акном амаль развіднела, як рыпнулі веснічкі, у двары пачуліся галасы, мужчынскі і жаночы.

— Хто гэта ў такую рань? — Аўдоцця не стала перабіраць магчымыя варыянты ранішніх візітоўцаў, бо адразу сама адказала на ўласнае пытанне, а сэрца радасна затрапятала ў грудзях:

— Гэта дзеці, мае дзетачкі!

# Між Пачатку й Спачыну



Антаніна ХАТЭНКА

***

*Між Айчыны і чужыны*
*б'ецца лёс напятай жылай.*
*А над лёсам — цёмны цень.*
*І святыя на куце.*
*Пахінуся да Айчыны —*
*ані звання, ані чыну.*
*А чужына, як спружына,*
*закруціла, закружыла —*
*аніяк не разбяру,*
*што прыгорнецца да рук:*
*ці спагада, ці праклён,*
*ці расада, ці быллё...*
*Над Айчынаю й чужынай*
*плача доля неспажынна:*
*што пасеяць, што пажаць?..*
*Скрозь душу — імжа, мяжа.*

***

*На змярканні прачулая ціша.*
*Адзінотнае волі сіло.*
*Лёс варожбамі пудкімі вышыў,*
*што забылася ўжо, аджыло.*

*На змярканні трывожная ціша.*
*Што прасеяў няўрымслівы дзень,*
*што раздумлівы вечар напіша*
*на зямлі, на вагні, на вадзе?..*

*На змярканні трымцлівая ціша —*
*нечаканай любові праток.*
*Што ў жыцці не збылося, не выйшла,*
*пачынае паўторны віток.*

*На змярканні відушчая ціша:*
*павуцінна прымоўклі куты.*
*І нястача даверу і лішак*
*заблукалі ў нітах залатых.*

*На змярканні адважная ціша —*
*перакроіць, даплыць, далюбіць.*
*І сягнуўшы са стромае вышы,*
*прамінуць недарэчна глыбінь.*

*На змярканні сцярожкая ціша.*
*Слёзна ростань зірнула ў вакно.*
*Можа, вечар суладдзе ўскалыша,*
*калі стане на сэрцы відно?..*

***

*Між Усім і Нічым,*
*між Пачатку й Спачыну*
*шэпча, плача, крычыць*
*вузел першапрычыны.*

*Шэпча, плача, крычыць*
*вузел Бога і д'ябла.*
*Повязь гэту рвучы,*
*я ў дарозе саслабла.*

*Між расстанняў-сустрэч*
*ці то з д'яблам, ці з Богам*
*доля кінецца прэч*
*і ў нядолі — знямога...*

*Затаюся ў начы,*
*між змяркання і золку.*
*Згоркла доля, маўчыць.*
*І нядолі тут золка.*

*Праўду ў ступе таўчы*
*ўперамешку з маною?*
*Ці ў нікуды ўцячы*
*паратункава з Ноем?*

*Над вузламі прычын —*
*горб адплат і паследкаў.*
*Завяршэнне й зачын*
*пасчапляліся ў клетках.*

*Часу жытні расчын*
*з Усяго і з Нічога.*
*Залатыя ключы*
*дзень прымае ад Бога...*

***

*Восень пахне журбой*
*журавінавых сцежак,*
*развітаннем з табой*
*на звятрэлым сумежжы.*

*Памяць грэецца ў сне.*
*Сны захутваюць восень.*
*Хто мяне спамяне*
*ў час рысталішчаў лёсных?*

*Што было — адгуло,*
*у вузельцы зраслося.*
*На вуглістае тло*
*горыч кінула восень.*

*Пахне восень зямлёй,*
*адсырэлай самотай,*
*тым, што сталася мной,*
*тым, чым стануся потым.*

*Варажбітна ў туман*
*зашапчу, каб збылося*
*чаго ў свеце няма,*
*што ўчароўвае восень.*

*З цёплай сілы ў камлях*
*лес паходні паўзносіць.*
*З невядомы, здаля*
*пахне вечнасцю восень.*

## Пракаветнае

*Снуе завея тонкі кужаль.*
*Спеў калаўротаў...*
*Віры саслепла кружыць сцюжа.*
*Святлютка з высланых палотнаў*
*над Паваротам.*

*Прадуць мяцеліцы кудзелю*
*з нябесных прасніц,*
*на зрэб'е й кужаль хвілі дзеляць,*
*то залацяць, то срэбна беляць —*
*і цёпла гаснуць.*

*Была завея мне пялюшкай,*
*сны спавівала.*
*Гады пушчанскі вецер гушкаў*
*у кроне помнай, нібы птушак,*
*над Перавалам.*

*Над Перавалам з цемры ў долю,*
*з Гары ў даліну,*
*дзе не надыхаюся Волі —*
*ператвараюся паволі*
*ў дзірван, у гліну.*

*Была мне вэлюмам завея —*
*надзей мярэжай.*
*Плыла набожнікам вясельным,*
*расой адбеленым і зеллем,*
*па-над сумежжам.*

*Па-над мяжой маны й любові,*
*аддання й здрады*
*снягі пластуюцца ў сувоі,*
*пераніцоўваюць міжволі*
*боль-страты ў Радасць.*

*Зноў абхіне мяне аднойчы*
*завеі саван,*
*калі сплыву смалой-падсочкай*
*аж да Карэння па-сірочы,*
*у бездань-гавань.*

*Зімую. Кропля камень точыць...*
*Над Перавалам*
*учуць бы Роду шэпт прарочы,*
*пакуль заплюшчыць Вечнасць вочы —*
*і зор зярняты ўзыдуць Ночай*
*сяйвом ухвалы...*



Фота А. С.

## На развітанне з Нінай Мацяш

*Аднойчы ўночы*
*заціхла сэрца.*
*І вочы ў вочы*
*жыццё са смерцю.*

*Да думкі думка —*
*дарога й вечнасць.*
*Адкіну клункі,*
*прыму галечу.*

*Да зорак зоры,*
*да цемры цемра.*
*Заходзіць змора,*
*усходзіць вера.*

*І сэрца ў сэрца —*
*маё й Сусвету.*
*Зляцець. Памерці.*
*Мой Божа, дзе ты?*

*Я вусны ў вусны*
*з Табой на сцерні.*
*Пайду й вярнуся,*
*як зерне ў зерне...*

***20.12.2008***

***

*Штоноч,*
*штоноч мне расчыняе весніцы*
*Тваёй пяшчоты чуйнай даланя*
*ў прыснёны край,*
*дзе ўсё аднойчы здзейсніцца,*
*на скрыжаванні цемрыва і дня.*
*А, мабыць, недзе ў бездані замружанай*
*альбо на ўзлёце — аж сцінае дых —*
*ізноў, ізноўку зарыпіць прастуджана*
*люботны голас весніц маладых.*
*Да весніц гэтых даблукалі позна мы,*
*панагубляўшы пацерак-надзей.*
*Твая пяшчота птахава над крозамі*
*галубіць, супакойвае й вядзе.*

***

*На дасвецці...*
*у матуліных вокнах — вецце.*
*Тонка вытканы ўзор Сусвецця,*
*успамінаў сівая квецень*
*знекуль свеціць, яснотна свеціць*
*скрозь дасвецце.*

*Зораць вокны...*
*Разнасцежна ў прасторы й лёгка.*
*Сонца жывіць маю далёкасць.*
*І расплюшчаным трэцім вокам*
*стуль прагледзіста-адзінока*
*БАЧАЦЬ вокны.*

*Кружыць вецер...*
*Чысты боль на дрыготкай вейцы.*
*Матылёк утрапёна б'ецца*
*ў перавечных карунках вецця.*
*...Ні слядоў, ні слязін не сцерці —*
*вокны ў вецер.*

## Сёмушная элегія

*За траецкай зялёнай Брамай*
*матылямі мігцяць знічы.*
*І з'яўляецца Знекуль мама.*
*А прастора, як ноч, маўчыць.*

*Пахне соладка свет аерам,*
*бела льецца святло бяроз.*
*...Жальна ўсхліпнулі ўдома дзверы,*
*глянуў з покуці ў лёс Хрыстос.*

*Хто пазнае? І хто прывеціць?*
*Мама сядзе пад абразы*
*урачыста ў зялёным вецці —*
*ані ўздыху, ані слязы...*

*Стане ясна-яснютка ў хаце,*
*адагрэе вуглі агмень.*
*як зязюлька ў пяшчотным свяце,*
*мама вернецца да мяне.*

*Разамкнуцца сівыя рамы —*
*і са здымкаў, як сад, старых*
*неспадзеўна пакліча мама*
*Род са мною пагаварыць.*

*І ахіліць усю радзіну*
*абярэжным радном ручнік.*
*Гэтак хораша, гэтак дзіўна!*
*Быццам боль усяленскі знік.*

*Угляджуся ў часы відушча:*
*дзе пачатак і дзе прасцяг?*
*Над траецкаю Брамай душы*
*зеляненькім лісцём трымцяць...*

## Да абаронцы

*Узіраецца ноч у дарогу маю,*
*як адчай, як туман, невідушча,*
*аб вузлы каранёў спатыкаецца сонна*
*і раніць сляды.*
*Цемра думкі мае, бы гарэхі мудроты,*
*расколвае-лушчыць:*
*кім я ёсць і навошта,*
*адкуль я спяшаю й куды.*

*А бяссонне маўчыць. Як агонь,*
*ператвораны раптам у прысак.*
*Так нямотная нетра аднойчы*
*мой змораны шлях праглыне,*
*не пакінуўшы тут ані знаку,*
*ні згадак, ні воблічных рысак,*
*на сумежжы пачатку і краю, дзе й хата*
*бясслаўна забудзе мяне.*

*Можа, толькі снягі. Можа, толькі*
*над садам завеі пялёсткаў*
*на зямлі, дзе ўзвінелася*
*кволаю птахай надзея мая,*
*у сутонні адлёту, праз цішу*
*і плыні ўсяленскае плёскат*
*заварожаць вакно, праз якое*
*таропка ўглядалася я*
*ў неасяжную далеч, скуль падалі*
*вусцішна жальныя знічкі*
*у чаканні світання, калі*
*схаладалая смутная Выш,*
*перад самай сустрэчай з каханнем,*
*знячэўку цяплее сунічна...*
*І аднекуль з правечнасці*
*Ты па-анёльску ляціш.*

*Дзе Ты быў, калі шкрэблася*
*роспачна ў сэрца, спаміны і дзверы*
*адзінота сірочая ў чорнай,*
*бяздоннай, як вір, немаце,*
*калі цэлыя эры ўціскаліся*
*ў шчыльныя стосы паперы —*
*у спадзеве, што Слова, як зерне,*
*аднойчы з дрымоты ўзрасце?*

*Дзе Ты быў, калі Ўсё распадалася*
*тут на аскепкі смяротна-балесна,*
*калі нават усхліпнуць уплач*
*сцераглася здранцвела самота мая,*
*калі вырвалі голас чужынцы*
*ў знявечанай, скурчанай песні,*
*калі здрада й мана набіраліся*
*з боязі хіжае моцы ўтрая?*

*Я крычала Табе, пакуль білася*
*ў горле натужна ніціна жывая,*
*пакуль гукі дрыготкія, быццам траву,*
*немата на пакос не сцяла.*
*...Ды Цябе тут няма. Толькі здані.*
*І нехта няўцямна чужыя*
*страданьня спявае.*
*І ў вагнішчы харобра мільгаюць,*
*з паходняў апаўшы,*
*астатнія яскры святла.*

# «Быў маім сябрам…»

## Згадкі Дануты БІЧЭЛЬ пра Васіля БЫКАВА

*Нягледзячы на тое, што прайшло ўжо шмат часу, як Васіль Быкаў адышоў у Вечнасць, ён застаецца прысутным у душах тых, хто шануе нацыянальную гісторыю, культуру, у душах тых, каму лёс падарыў магчымасць сустракацца з ім, сябраваць.*

*З нагоды 100-гадовага юбілею Васіля Быкава і адбылася гэтая гаворка пра яго з Данутай Бічэль.*

***— Пані Данута, Вы напісалі пра Васіля Быкава эсэ, неаднаразова выказваліся пра яго ў сваіх інтэрв'ю, ды ўсё ж хацелася б пачуць Вашае слова пра пісьменніка ў час ягонага юбілею. Ці прыгадваеце Вы, калі і дзе ўпершыню сустрэлі Васіля Быкава? Як гэта адбылося, якія ўражанні засталіся ад той сустрэчы?***

— Васіля Быкава першы раз убачыла на пасяджэнні Аб'яднання маладых літаратараў Гародні ў вялікай зале рэдакцыі «Гродзенскай праўды». Кіраваў маладымі літаратарамі Валянцін Чэкін (пісаў па-руску). Я вучылася на першым курсе педінстытута, сяброўкі, якія пісалі вершы, мяне туды запрасілі. Мы сядзелі высока, на галёрцы… Нехта чытаў верш. Пасля гэты твор «крытыкавалі», разбівалі ў пух і порах. І тут усе сціхлі. Увайшоў Васіль Быкаў. Я яго ўбачыла зверху.

Ён у газеце рабіў літаратурныя старонкі, таму ўсім хацелася спадабацца яму. І мы з сяброўкамі насілі свае вершы ў «Гродзенскую праўду», ён іх чытаў і нават рабіў заўвагі… І змяшчаў на літаратурных старонках. Ірына Міхайлаўна (тады Суворава) нам, звычайна, казала, што ён стомлены, бо пісаў свае творы ўночы… Але Быкаў ніколі не казаў такога, маўляў, сёння мне не да вас. Ён любіў маладых паэтаў і ўсіх людзей.

Калі нарадзілася Віка, Эрык, мой муж, спешна знайшоў пакоік, у той пакоік аднойчы нечакана зайшлі Васіль і Ірына Міхайлаўна. Там было цесна, было няёмка… Але ж Васілю трэба было мяне ўбачыць і маю малую дачку. І. Суворава сказала: «Ну, што ж, можа, у іх усё будзе не так, як у нас…»

***— Якое літаратурнае кола было тады ў Гародні, якім помніцца Васіль Быкаў у стасунках з творчымі людзьмі, з чытачамі?***

— Чамусьці ўжо тады пры «Гродзенскай праўдзе» было вельмі шмат рускамоўных паэтаў, пераважна старэйшага пакалення. Але і маладых хапала. Ды гэта не выклікала неспакою. Васіля любілі ўсе — і пісьменнікі, і проста старажылы. Яго спынялі на вуліцы, каб сказаць пра сваё набалелае, ён надта ўмеў слухаць людзей.

***— «Хадзі на мой голас…». Калі прагучалі для Вас гэтыя словы Васіля Быкава? Чаму сталі назвай Вашай кнігі эсэ, успамінаў, нарысаў?***

— У Гародні абкам камсамола праводзіў такія мерапрыемствы: запрашалі ўсіх маладых літаратараў з раёнаў і з горада, а з Менску — з Саюза пісьменнікаў. Прыязджалі паэты і празаікі, і крытыкі, хто мог, у каго быў час, каму хацелася пазнаёміцца з Гародняй. Усіх я не прыгадаю, але памятаю, што асабліва вылучаўся Валодзя Караткевіч… Спачатку падзеі адбываліся ў горадзе: класікі знаёміліся з маладымі, рабілі свае заўвагі. Некалькі дзён. У канцы гэтага мерапрыемства нас павезлі ў Скідзель. Там у мясцовым клубе госці, ну, і гродзенскія сярод іх, чыталі вершы або проста гаварылі пра сваю творчасць. Быкаў на такіх сустрэчах быў стрыманы… Карпюк надта любіў і ўмеў выцягваць людзей на размовы, апавядаць смешныя рэчы. І адказваць на пытанні. Ён прыдумаў такую хітрасць: сам рыхтаваў пытанні і даваў слухачам у зале. А мы з Быкавым яму таксама падкідвалі адно і тое ж пытанне: каго ён больш любіць — брунэтак ці бландзінак? Ён сур'ёзна чытаў, пасля паварочваўся да нас і казаў: «Гэта зноў вы!»

Але на тым вечары галоўным быў Валодзя Караткевіч.

Пасля сустрэчы нас павялі ў іншае месца, дзе былі сталы накрытыя, камсамол частаваў пісьменнікаў. Караткевіч быў у цэнтры ўвагі. Ён жартаваў, але ў нейкі момант нейкім жартам ён зачапіў галоўную сакратарку, пачалася спрэчка. Валодзя, каб даказаць, што з жанчынамі ён не спрачаецца, пацалаваў яе ў вусны. І спрэчка скончылася. Быкаў сядзеў



Данута Бічэль і Васіль Быкаў. 1966 г.

каля мяне і каментаваў: «Некаторым прырода дала ўсё — і прыгажосць, і розум, і вочы не аднолькавыя — адно шэрае, а другое карае…» Калі, нарэшце, гэтая вячэра скончылася, мы выйшлі на вуліцу, каб дайсці да аўтобусаў, не заўважылі, што прайшоў дожджык, стаялі лужыны… Васіль скочыў праз лужыну, падаў мне руку і сказаў: «Хадзі на мой голас!» Мне гэтыя словы запалі ў сэрца. Яны былі знакавымі. Я думала над імі — усё сваё літаратурнае жыццё я ішла на голас Васіля Быкава. Неяк так атрымалася, што Бог мне яго даў.

***— У сваіх эсэ Вы прыгадваеце лодачку Васіля Быкава. Ёсць у Вас верш «Васіль Быкаў малюе лодку». Ёсць там такі вобраз пісьменніка — «Адзін, як Нёман задумёны…»***

— Адзін раз мы паплылі на той лодачцы па цячэнні ў бок Мяловых горак, спыніліся, у яго быў прымус, ён на беразе згатаваў каву з дымком і пачаставаў мяне… Гэта аб прыемным. Але верш пра сумнае: пра тое, як нялёгка было Васілю Быкаву пісаць праўду пра тую страшную сусветную вайну і выдаваць у часопісах і кнігах. Звычайна, спачатку яго друкавалі ў Маскве і ў іншых краінах, а ўжо пасля ў БССР. І трэба было яму жыць тут, вяртацца дадому, да сям'і і да сыноў, якіх таксама ў школе не шкадавалі…

***— Сустрэла сярод Вашых выказванняў такое: «Мне хацелася сустрэцца з ім на мосце святога Францішка, але заўсёды ён пераходзіў мост раней, чым я да моста даходзіла, і чакаў мяне на дзікім беразе Нёмана».Чым быў для Васіля Быкава Нёман? Як прыгадваюцца праз гады тыя вандроўкі ля Нёмана, па Нёмане? У вершы «Люблю цябе, Нёман» Вы прыгадваеце і Васіля Быкава…***

— Мы з Васілём «вандравалі» толькі на невялікім адрэзку — ад моста на левым беразе Нёмана (дарэчы, лодачка-маторка там стаяла), ішлі ў бок чыгуначнага моста. Гэта быў ціхі куток, Нёман цёк унізе, дамы стаялі высока… Чамусьці Васілю трэба было мне ўсё расказаць, паспавядацца пра тое, што з ім адбылося і дзе ён пабываў. Алесь Адамовіч казаў пра гэта так: «Быкаў не баіцца ні смерці, ён яе перажыў двойчы на вайне, ні КПСС не баіцца. Быкаў баіцца — а што скажа Данута?!» Мост святога Францішка — толькі мая назва, яна не прышчапілася ў гэтым горадзе… Але інакш нельга называць гэты стары мост, бо ён злучае два касцёлы — з правага боку Бернардынскі, з левага — Францішканскі, абодва належаць да таго ж ордэна, які заснаваў святы Францішак з Асізі…

***— Што адгукаецца ў душы, калі трапляюцца Вам здымкі, якія зафіксавалі асобныя імгненні той пары падчас сустрэчаў з Васілём Быкавым ды іншымі пісьменнікамі?***

— Я люблю чатыры здымкі: самы прыгожы, дзе мы сядзім у зале тэатра і ўсміхаемся. Не памятаю, што мы там глядзелі, здымак у мяне падпісаны — 15 верасня 1962 года, фатограф Краўчанка. Другі здымак — у маёй кватэры па вуліцы Міра, 12. Карпюк сядзіць за сталом, Быкаў стаіць каля стэлажа з кніжкамі і трымае кніжку, я ім чытаю верш, усміхаемся. 1963 год, Фёдараў… Здымак ёсць у кнізе «Хадзі на мой голас» і ў «Беларускім кнігазборы».

Самы слаўны здымак: у Зэльве з букетамі кветак: я, Аляксей Карпюк, Ларыса Геніюш і Васіль Быкаў. Пасля выступлення ў санаторна-лясной школе, здымак рабіў Юрка Голуб, тады вучань 9 класа… Сёння я не знайшла кнігі, у якой гэты здымак ёсць, але ў інтэрнэце знайшла, мне здавалася, што мы ішлі па дарозе. Быў яшчэ адзін здымак — мы ідзем па дарозе… Гэта таксама 60-я гады, можа, 1966-ы. На яшчэ адным фотаздымку ў Мінску я стомленая, прыехала з цягніка, Васіль Быкаў трымаў мне месца ў зале… Нехта нас сфатаграфаваў. Мінск, 1992 год…

***— Ёсць у Вас верш «Людзі без смерці», прысвечаны Васілю Быкаву. Ён гучыць актуальна і сёння. Гэта як слова абароны франтавіка, пісьменніка, верш супраць вайны…***

— Я працавала ў школе рабочай моладзі № 5. На ўрок літаратуры запрасіла Васіля Быкава… Ён ахвотна згадзіўся і прыйшоў. Ён вельмі неяк стрымана расказаў — я не памятаю, пра што… Я прачытала гэты верш. І сустрэча скончылася, бо скончыўся ўрок… Васіль пайшоў дадому. Мяне выклікаў завуч на разборку. Сказаў, што я напісала дурацкі верш, пісьменніку ён не спадабаўся.

А справа была ў тым, што Быкаву балеў зуб, перад сустрэчай ён зайшоў у стаматалогію, яму вырвалі хворы зуб пад наркозам. Наркоз адыходзіў, яму вельмі балела…

***— Ці даводзілася Вам бачыць Васіля Быкава ў няспрыяльны для яго час? Як пераносіў ён шальмаванне, нагляд?***

— Я ўжо часткова адказала на гэтае пытанне. Ну, неяк пераносіў, у Гародні, дома, было лягчэй. Тут у яго было шмат сяброў. Але ён не плакаўся і перад сябрамі.

***— Якою была Вашая апошняя сустрэча, гаворка з Васілём Уладзіміравічам? Хоць, пэўна, гаворкі з дарагімі людзьмі працягваюцца, нават калі яны ўжо высока ў нябёсах…***

— Калі яны з Ірынай Міхайлаўнай пачалі ездзіць у Еўропу, звычайна, яны спыняліся ў Гродна і заходзілі ў музей пабачыцца… Размаўлялі, дзве маладыя супрацоўніцы рабілі каву. Адзін раз мы размінуліся: я паехала ў Мінск, а яны зайшлі ў музей… Калі яны пачалі жыць за мяжой, Васіль мне зрэдку тэлефанаваў. У Мінску аднойчы яму пазваніла, ён мяне запрасіў. Жыў у кватэры па вуліцы Танкавай. Ірыны Міхайлаўны дома не было. Ну, паразмаўлялі, таксама пачаставаў кавай. Мусіць, гэта была апошняя сустрэча. Калі ён вярнуўся, каб паміраць, я не ездзіла да яго ў шпіталь і не ездзіла на пахаванне… Не мела сілы… Баялася, што не вытрываю…

***— Васіль Быкаў атрымаў шмат заслужаных характарыстык ад сваіх сяброў. Уладзімір Караткевіч у вершы «Васілю Быкаву да 60-годдзя» назваў яго «рыцарам сумлення і свабоды». Зборнік вершаў, прысвечаных Васілю Быкаву, мае назву «Пасланец мужнасці». Рыгор Барадулін сказаў паэтычна: «Васільком у жыце Беларушчыны назаўсёды застанецца Быкаў». Называюць яго справядліва і «сумленнем нацыі», «нацыянальным пракам…» У чым таямніца ягонай Асобы?***

— Пасля той сусветнай вайны з'явілася цэлая плеяда славутых пісьменнікаў, якія прайшлі вайну і спазналі горкую праўду гэтай страшнай бойні. Як бы іх Бог прыслаў, каб ачысціць СЛОВАМ гэтую скалечаную і зруйнаваную планету ад трупаў, крыві і слёз. І Быкаў быў сярод іх — як адзін з першых. Бо ён меў асаблівы талент — трымаць чытача магутным расповедам аб тым, што з ім непасрэдна адбылося, — ад пачатку да канца. Я не перачытваю кніг Васіля Быкава, бо цяпер у мяне няма на гэта сілы. З яго твораў выразна напрошваецца вывад: вайна знішчае не толькі жыццё аднаго чалавека, вайна знішчае пакаленні. Вайна — найстрашнейшае зло нячысціх сілаў, якія аднекуль прарываюцца… Калі людзі стомленыя або супакоеныя. Трэба быць чуйнымі. Трэба быць людскімі, трэба любіць блізкіх і далёкіх. Любоў ратуе жыццё людзей і планету.

***— Калі б у Гародні турыстаў вадзілі сцежкамі Васіля Быкава, то куды б яны кіраваліся, якія мясціны наведалі?***

— У Гародні шмат мясцін, звязаных з Васілём Быкавым. Ён жыў тут з 1947 па 1949 гады, пасля з 1955 да пачатку 1978-га. Тут падрасталі ягоныя сыны — Сяргей і Васіль. Былі такія часы, што вадзілі ў Гародні турыстаў і паказвалі ўсе сцежкі, мясціны, усе кватэры Васіля Быкава. Адна кватэра па вуліцы Траецкай, 28, цяпер прадаецца за 65 тысячаў долараў…

У кватэры трохпавярховага дома па вуліцы Вялікая Траецкая былі напісаныя яго сёння сусветна вядомыя творы — «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Альпійская балада», «Мёртвым не баліць», «Круглянскі мост», «Сцюжа», «Сотнікаў», «Абеліск», «Дажыць да світання» і многія іншыя.

З Васілём Быкавым звязаны і яшчэ адзін куток Гародні — кватэра па вуліцы Свярдлова, 18. Тут былі напісаны аповесці «Воўчая зграя», «Пайсці і не вярнуцца». Захаваўся і будынак, у якім размяшчалася рэдакцыя газеты «Гродзенская праўда», у якой ён працаваў.

***— «Так прыснілася: Васіль ад сонейка ішоў…» Гэта радкі з Вашага верша «Сон», яшчэ адна паэтычная згадка пра Васіля Быкава, яго сям'ю. А які верш Вы б хацелі прачытаць на заканчэнне нашай гаворкі?***

— Я сапраўды гэты верш прысніла. Я прысніла, як ён ішоў ад Замка ці нават з нябёсаў, аднекуль звысоку, па вуліцы Траецкай, а Надзея ішла з галінкай над галавой ад вуліцы Віленскай. А я сядзела на ўзвышшы, там, дзе была іхняя кватэра па вуліцы Траецкай, і думала: што ж я ім скажу?..

Верш «Крылы чакання», са зборніка «Ты — гэта ты», 1976 год… Гэты верш я любіла чытаць перад слухачамі, калі тое было… У часопісе «Наша Вера» быў апублікаваны верш, які я чытаю са слязамі, калі не спіцца ноччу. Гэты верш — я напісала яго 9 лютага 2023 года — і будзе падсумаваннем усёй нашай размовы.

### Ты быў маім сябрам

***Светлай памяці Васіля Быкава***

*Мы сустрэліся ў маладосці
на мосце, у змроку ночы.
Нёман унізе ў паўсне
плыў сабе моўчкі…*

*Твае спакойныя шэрыя вочы
з пажарам прарочым на дне
трымалі, не адпускалі мяне.*

*Я ў іх, нібы ў прысак, ускочыла.*

*У іх глыбіні спакойнай —
усе зямныя пякельныя бойні,
мінулыя і наступныя войны,
невідочныя крыўды нябёс —
ты па мосце ішоў сабе збоку
і ў добрага Бога навідавоку
ў вачах сваіх шэрых нёс…*

*Мы спусціліся ўніз
да хваляў соннага Нёмана…
Сонныя хвалі цёплы жвірок краналі,
нашы сляды цалавалі.
Ні рукамі, ні вуснамі
ніколі не дакраналіся…
Размаўлялі, нібы спавядаліся…*

*Не перабівала цябе аніразу,
ты мне расказваў —
пра краіны, у якіх пабываў,
пра герояў, з кім сябраваў…
З кім у пекле вайны ваяваў…
Хто табе здрадзіў:
пакаяння ліст за цябе падпісаў
да чыноўніка на пасадзе…*

*Сонейка небакрай распаліла…
Гародня загаманіла імгненна.
Ты — направа пайшоў, я — налева…
Вярталася я самотна дадому.
Каціўся да Балтыкі Нёман…
Збірала слоўца да слоўца…
Ты — мой невідочны сумоўца!*

*Раптам машыну прыдбаў
і ў свет невядомы паехаў.
Голас твой да мяне далятаў
то ў тэлефоне, то рэхам.*

*І цяпер уначы мяне будзіць твой голас:
— Дануся, выйдзі на досвітку з дому…
Бачыш хмарку — гэта наш Нёман…*

*Спачатку вучыў мяне тата.
Пасля вучыў мяне ты.*

*Цяпер — па мосце хаджу адна.
Наяве хаджу і ў прарочым сне.
Прарочы сон на бяду паўтараецца:
Нёман вышэй берагоў разліваецца…
Маснічыны з-пад ног маіх валяцца…
А вочы твае ратуюць мяне!*

*Ты быў маім захапленнем,
натхненнем, таемным скарбам…*

*Ты быў маім сябрам!*

***Гутарыла Марыя НОВІК***

# Апошні трагік: Віктар АСТАФ'ЕЎ

## Да 100-годдзя з дня нараджэння



Арсень ЗАМАСЦЬЯНАЎ

Чытаць Астаф'ева няпроста, ён ніколі не пісаў «камерцыйных» кніг — яго цікавілі складаныя матэрыі, а не захапляльныя сюжэты…

Ён з'явіўся на свет 100 гадоў таму ў святочны першамайскі дзень у вёсцы Аўсянка пад Краснаярскам — і амаль усё жыццё пражыў у родным краі. Віктар Астаф'еў, магчыма, самы парадаксальны і цяжкі для разумення пісьменнік савецкага часу. «Я нарадзіўся пры святле лямпы ў вясковай лазні. Пра гэта мне расказала бабуля. Каханне маё нарадзілася пры святле лямпы ў шпіталі. Пра гэта я раскажу сам», — так пачынаецца аповесць «Зоркапад», шмат у чым — аўтабіяграфічная. Адразу відно: гэта сапраўдная літаратура.

Ён рана застаўся без маці, якую аплакваў усё жыццё. Яна б, напэўна, выплыла, каб каса не абкруцілася вакол бэлькі моста… Адносіны з бацькам і мачыхай не складзіся. Пасля некалькіх гадоў дзіцячых пакутаў апынуўся ў дзіцячым доме. Падобным лёсам Віктар Астаф'еў надзяліў героя свайго дзіцячага (але ў чымсьці зусім не дзіцячага!) апавядання «Стрыжонак Скрып»: «Пацямнела плямка святла. Надышла ноч. Аціхла ўсё на рацэ. Аціхлі стрыжы і стрыжаняты, прыгрэтыя татамі і мамамі. І толькі Скрып быў з братамі і сёстрамі без мамы. Збіліся ў кучу стрыжаняты. Холадна без мамы, галодна. Відаць, прападаць давядзецца».

Але пісьменнік не лічыў сваё дзяцінства сірочым, няшчасным. Усё гэта — недакладныя словы. «Яшчэ пытанне: якому дзяцінству зайздросціць: шчасліваму і сытаму ці такому, як маё, насычанаму падзеямі? Якое жыццё лепшае? Можа, як у Абломава: паеў, паспаў і зноў паеў?» — вось пазіцыя Астаф'ева.

У 1942 годзе ён добраахвотна сыходзіць на фронт. У 1941 годзе Астаф'еву было 17, ён скончыў шасцігодку, працаваў счэпшчыкам на чыгунцы. У 1942 годзе, нягледзячы на бронь, пайшоў на фронт. Служыў сувязістам. Медаль за адвагу, ордэн Чырвонай Зоркі, раненні і кантузія — такая яго франтавая біяграфія. Як пазначана ва ўзнагародным лісце, «пад артылерыйска-мінамётным агнём сабраў абрыўкі кабеля і аднавіў тэлефонную сувязь, забяспечыўшы бесперабойную сувязь з пяхотай і яе падтрымку артылерыйскім агнём». У шпіталі ён сустрэў медсястру Марыю Каракіну — сваю будучую жонку. Гэта было сапраўднае каханне. І трэба разумець, што спакойнае шлюбнае жыццё было Астаф'еву не даспадобы. Ён як быццам чакаў канфлікту.

Зімой 1950 года Астаф'еў — да таго часу ўжо бацька сямейства — працаваў на мясакамбінаце ў горадзе Чусаў і неяк зазірнуў на заняткі літаратурнага гуртка. Там пачуў чыйсьці цалкам традыцыйны для тых гадоў нарыс аб вяртанні франтавіка дадому — парадны, саладжавы. Не мог схаваць абурэння. А ўначы, у вахцёрцы, напісаў сваё першае апавяданне — вядома, ад рукі, на шчыльных старонках часопіса дзяжурства каўбаснага цэха. «Цывільны чалавек» — так называлася гісторыя сібірака, селяніна Мацвея Савінцава, сувязіста, які сапраўды загінуў за Радзіму, і «зямля, якая пахне дымам і хлебам, прыняла яго з ціхім уздыхам». Гэта не фантазія, Астаф'еў напісаў пра свайго загінулага таварыша. Калі на чарговым паседжанні гуртка ён прачытаў гэтае апавяданне, стала зразумела, што гэты яршысты малады работнік — сапраўдны пісьменнік. Апавяданне адразу прынялі да публікацыі ў газеце «Чусовский рабочий». Праўда, узнікла затрымка, кагосьці з рэдактараў спалохала «акопная праўда», але ўсё ж «Цывільны чалавек» выйшаў — у некалькіх нумарах, у лютым-сакавіку 1951 года.

Неўзабаве Астаф'еў стаў карэспандэнтам «Чусовского рабочего», а апавяданне передрукавалі ў альманаху «Прикамье» і нават паставілі па ім радыёспектакль. Кантужаны, амаль бяздомны франтавік за некалькі тыдняў ператварыўся ў літаратурную надзею краю…

Рэч нават не ў тым, што ён пісаў праўдзіва, пра тое, што бачыў на свае вочы. У Астаф'ева кожнае слова аказвалася на месцы.

Праз два гады выйшла яго першая кніга — «До будущей весны». Астаф'еўская проза — нават ранняя — была беспрасветнай, — па настроі, па сюжэтах. Ён ніколі не аддаваў належнае сацрэалістычнай традыцыі і жыццесцвярджальным канцоўкам. Астаф'еў — трагік па натуры і па літаратурным амплуа. Але яго лепшыя старонкі можна чытаць як вершы — кожная фраза ў Астаф'ева музычная, дзіўна пластычная. У яго быў найтанчэйшы слых на слова, на інтанацыю, якая зацягвае чытача, калі ён здольны спачуваць і суперажываць.



Віктар Астаф'еў — рабочы арцелі «Металлист». Пермскі край, 1947 г.

Чытаць Астаф'ева няпроста, яго цікавілі складаныя матэрыі, а не захапляльныя сюжэты. Таму па яго аповесцях калі і здымалі кінафільмы, дык яны не станавіліся падзеямі для мільённай гледачоў — як гэта было з кнігамі Юрыя Бондарава, Барыса Васільева, Васіля Быкава, Рыгора Бакланава, Віктара Курачкіна. Цяжкі характар? Няўменне зладзіць з рэжысёрамі і студыямі? Было і гэта. Але галоўнае ў тым, што Астаф'еў пісаў для вытанчанага чытача, такога, які сумняецца, змучанага і нервовага, як і сам.

Ён зноў успомніў пра вайну ў аповесці «сучаснай пастаралі» 1967 года «Пастух и пастушка». Астаф'еў не шкадаваў чытача, паказваючы штодзённую жорсткасць вайны — «у крыві і полымі». Досыць успомніць, як камандзір напярэдадні халоднай начы загадаў распрануць параненых і перадаць іх адзенне іншым байцам — ім цяпло патрэбней, у іх быў шанец выжыць. Вызваляючы ўкраінскі хутар ад гітлераўцаў, лейтэнант Барыс Касцяеў убачыў забітых старых — мужа і жонку, пастуха і пастушку, якія «ляжалі, прыкрываючы адзін аднаго». Мімалётная сустрэча лейтэнанта з хутаранкай Люсяй аказваецца галоўнай падзеяй у іх жыцці, засланяючы нават вайну. Ён памірае ад ран у санітарным цягніку, думаючы пра яе, а яна знаходзіць яго безназоўную магілу: «Спі! Я пайду. Але я вярнуся да цябе. Хутка. Зусім хутка мы будзем разам… Там ужо ніхто не здольны разлучыць нас». Горкая аповесць.



Віктар Астаф'еў

У Астаф'ева цяжка знайсці тое, што лічылася неабходным для «сацыялістычнага рэалізму» — жыццесцвярджальныя матывы. Але чытачы, выхаваныя на рускай класіцы, прызнавалі Астаф'ева сапраўдным: менавіта такіх нот не хапала савецкай літаратуры.

У славянскім пісьменстве ён — апошні трагік «чыстай вады» з «параненым сэрцам».

Але куды падзецца ад парадоксаў? Пісьменнік скептычна ставіўся да інтэлігенцыі — але захапляліся яго апавяданнямі прадстаўнікі менавіта гэтай «праслойкі». Ён — спачатку таемна, потым адкрыта — ненавідзеў савецкую ўладу, але толькі ў тыя часы самародак з Аўсянкі мог адбыцца як сур'ёзны пісьменнік і дасягнуць «высокіх ступеняў» і ўсеагульнага прызнання, аж да школьнай праграмы і зоркі Героя Сацпрацы. Пры гэтым — ніколі не пісаў па замове, заўсёды прабіваў уласныя задумы.

У 1980-я Астаф'еў стаў больш змрочна глядзець на свет і не хаваў гэтага ад чытачоў, многія з якіх бачылі ў такой пазіцыі вышэйшую бескампрамісную праўду. Ён, напрыклад, лічыў сціплае савецкае дапербудоўнае тэлебачанне вылюдкам рок-музыкі і парнаграфіі. Але не гэта было галоўнае. Раздражняла інтэлігенцыя з яе касмапалітычнымі каштоўнасцямі, раздражнялі «прышлыя людзі» ў Расіі. З гэтай нагоды часцей за ўсё ўзгадваюць перапіску Астаф'ева з гісторыкам Натанам Эйдэльманам, які паспрабаваў заступіцца за грузінаў і яўрэяў, пакрыўджаных (цалкам свядома і нават праграмна) за некалькі апавяданняў Астаф'ева. Пісьменнік адказваў з'едліва: «Ва ўсякага нацыянальнага адраджэння, тым больш у рускага, павінны быць супернікі і ворагі. Адраджаючыся, мы можам дайсці да таго, што станем спяваць свае песні, танчыць свае танцы, пісаць на роднай мове, а не на навязанай нам "эсперанта", "тонка" названай "літаратурнай мовай". У сваіх шавіністычных памкненнях мы можам дайсці да таго, што пушкіназнаўцы і лермантазнаўцы ў нас будуць таксама рускія, і, жудасна падумаць, — зборы твораў айчынных класікаў будзем складаць самі, энцыклапедыі і ўсякага роду рэдакцыі, тэатры, кіно таксама "прыбяром да рук" і, які жах! які кашмар! самі паракаментуем "Дзённікі" Дастаеўскага».

У гэтай перапісцы абодва павялі сябе некалькі крывадушна і здзекліва. Абодва рабілі выгляд, што загадзя не разумеюць аргументаў апанента…

Астаф'ева прылічалі да плеяды пісьменнікаў-вяскоўцаў. Ён сапраўды ведаў і разумеў свет рускай вёскі і пісаў пра яе то з паэтычнай пяшчотай, як у «Оде русскому огороду» 1972 года, то з расчараваннем, як у «Печальном детективе», рамане 1986 года. Тады Астаф'еў паставіў цяжкі дыягназ роднаму краю, які раз'ядаюць п'янства і крымінальшчына, а галоўнае — абыякавасць.

На пачатку 1990-х ён аказаўся адзіным пісьменнікам з лагера «русафілаў», які падтрымаў новую ўладу. Нават увосень 1993 года, падчас кровапралітнага супрацьстаяння з Вярхоўным Саветам. У сваіх кнігах таго часу Астаф'еў зводзіў рахункі з савецкай эпохай — і гэта ўпісвалася ў тагачасную кан'юнктуру. Прыйшлося да двара. І ў рамане «Прокляты и убиты», і ў дзясятках інтэрв'ю ён даказваў, што «армія рабоў ваявала па-рабску, трупамі завальваючы ворага і крывёй залiваючы палі». Напісаны «Прокляты и убиты» зусім не так музычна, як, напрыклад, «Пастух и пастушка». Яму здрадзіў стыль. Здрадзіла пачуццё меры. Астаф'еў сабраў усе — нават самыя перабольшаныя — байкі, якія прыніжаюць перамогі савецкай арміі, саму сутнасць савецкай краіны — а сам, безумоўна, верыў у гэта. Многія франтавікі не маглі змірыцца з такой пазіцыяй пісьменніка. Ён адказваў рэзка: «Што да праўды пра вайну, то я недарма ўсюды казаў і кажу, пісаў і пішу: гэта мая праўда, мая, і нічыя больш». І кропка. Немагчыма ўявіць, каб упарты і самалюбны Астаф'еў прызнаў свае памылкі — хоць бы збольшага. Валянцін Распуцін тады, магчыма, дакладней за іншых растлумачыў позні «кіданні» Астаф'ева: «Заявіўшы, што трэба было здаць немцам Ленінград, далей ён ужо пайшоў напралом. Эпатаж гэта ці жорсткасць, не ведаю. Я думаю, ён сам ад гэтага пакутаваў. Упэўнены, што ён пакутаваў і ад адзіноты, і ад разлаванасці, але ўжо адступіцца не мог ад вобразу сваёй новай рэпутацыі».

А як можа не пакутаваць трагік? Так, хутчэй за ўсё, ён упадаў у мізантропію, спрабаваў звесці рахункі з кімсьці з ранейшых крыўдзіцеляў — якія ўспаміналіся яшчэ з дзяцінства. Па-сялянску паважаў «разваротлівых» гаспадароў і, у адрозненне ад большасці рускіх пісьменнікаў, не быў супернікам усяго, што звязана з прыбыткамі, з купляй-продажам… Хоць — зноў парадокс — сам мог стаць постацю вялікага маштабу толькі ў свеце, дзе камерцыйны поспех застаецца на абочыне ўсеагульнай увагі.

Аднак хіба могуць палітычныя сваркі кінуць цень на яго лепшыя кнігі? Яны — з непаўторных і непераўзыдзеных.

***Пераклад з рускай***

# «Першы паэт касмічнай эпохі»



Алена ДАРАФЕЕВА

120 гадоў таму нарадзіўся шведскі пісьменнік, раманіст і журналіст, нобелеўскі лаўрэат Хары Эдмунд Марцінсан (Harry Edmund Martinson, 1904—1978).

Яго жыццёвы шлях быў няпростым і дастаткова неардынарным. Хлопчык рана застаўся без бацькоў: пасля гібелі бацькі маці кінула дзяцей і з'ехала ў Амерыку. Хары выхоўваўся ў парафіяльных прытулках і прыёмных сем'ях. У канцы Першай сусветнай вайны, яшчэ падлеткам, ён адправіўся ў Гётэборг, дзе ўладкаваўся юнгам на карабель. У 1920—1927 гадах працаваў качагарам і матросам, змяніў чатырнаццаць караблёў. Часта ўцякаў з карабля, працаваў у партах Індыі, Кітая і Паўднёвай Амерыкі, бадзяжнічаў.

Сухоты, ад якіх Марцінсан з часам вылечыўся, вымусілі яго ўрэшце кінуць вандроўнае жыццё. Пазней ён напіша аўтабіяграфічны раман «Крапіва квітнее» (1935) пра сваё жахлівае дзяцінства парафіяльнага сіраты, а тэма падарожжаў стане адной з найважнейшых у яго творчасці.

Развітаўшыся з морам, Хары пачаў пісаць вершы. Яго першыя паэтычныя досведы былі ўспрынятыя варожа (зборнік вершаў «Лятучы Галандзец», 1929). Многім ён здаваўся чужынцам у літаратуры, бадзягам і маракам, які заняўся не сваёй справай.

Марцінсан далучыўся да літаратурнага аб'яднання «Пяцёра маладых» («Fem Unga»), аўтары якога дэкларавалі сацыялістычныя ідэалы, заклікалі да рэалістычнага адлюстравання жыцця, апявалі «стагоддзе машын» і «вольнае каханне», а таксама абсалютна вольны верш, не скаваны памерам і рыфмай.

Трэба адзначыць, што на мяжы першых двух дзесяцігоддзяў XX стагоддзя на літаратурнай арэне Швецыі выступілі першыя пралетарскія пісьменнікі, якія заклалі аснову так званай «працоўнай літаратуры». Гэтае паняцце замацавалася як у шведскім літаратуразнаўстве, так і ў культуры наогул. Як правіла, гэтыя аўтары нарадзіліся і выраслі ўдалечыні ад Стакгольма, не атрымалі акадэмічнай адукацыі, але менавіта яны, нечакана ўварваўшыся ў літаратуру, здзейснілі сапраўдны пераварот. Цікава, што менавіта дзякуючы працоўным пісьменнікам Швецыя адкрыла для сябе мадэрнізм (хоць у шведскамоўную літаратуру Фінляндыі ён прыйшоў яшчэ раней, з выхадам у 1916 годзе зборніка вершаў Эдзіт Сёдэргран). Менавіта да гэтай групы пісьменнікаў можна аднесці і Хары Марцінсана.

Аднак прызнанне прыйшло да Марцінсана, калі ён абраў свой уласны творчы шлях. Яго «марскія» зборнікі і падарожныя нарысы «Вандроўца» (1931), «Падарожжы без мэты» (1932) і «Кап, бывай» (1932) становяцца неверагодна папулярнымі. Пазней ён напіша адзін са сваіх галоўных раманаў «Дарога ў Краіну званоў» (1948), прысвечаны групе валацуг, якія вандруюць па дарогах Швецыі і Нарвегіі.

«Кнігі Марцінсана чыталіся па ўсёй краіне, яго як лектара запрашалі на сустрэчы з чытачамі ў самыя аддаленыя куткі краіны; яго партрэт часта можна было ўбачыць на сцяне побач з партрэтам Стрындберга. Яго кнігі перакладаліся на англійскую і многія іншыя мовы. Асоба пісьменніка стала амаль легендарнай», — пісаў вядомы шведскі пісьменнік і літаратуразнавец Свэн Стоўпэ.



Хары Эдмунд Марцінсан

Фота Av Lennart af Petersens Stockholms stadsmuseum

У 1934 годзе Хары Марцінсан разам з жонкай Муа, таксама пісьменніцай, прыязджаў у СССР на I Усесаюзны з'езд савецкіх пісьменнікаў. Ён сустракаўся з Горкім, Бабелем, Пастарнакам. Сярод гасцей быў і знакаміты ісландзец Халдор Лакснэс, таксама будучы нобелеўскі лаўрэат па літаратуры (1955). Але калі Лакснэс, як і Муа Марцінсан, былі ў захапленні ад убачанага і захапляліся «рускай казкай», то Хары быў глыбока расчараваны сфармуляванымі на з'ездзе прынцыпамі сацыялістычнага рэалізму і лозунгам «Пісьменнікі — інжынеры чалавечых душ». Вярнуўшыся дадому, ён напісаў эсэ, якое пазней увайшло ў кнігу «Смяротная рэчаіснасць» (1940), урывак з якога быў апублікаваны на рускай мове толькі ў 2011 годзе ў часопісе «Новый мир» (у перакладзе на рускую А. Афінагенавай). «Дэвізам з'езда стала цытата з Леніна (аўтар памылкова прыпісвае Леніну словы Сталіна. — *А. Д.*): «Пісьменнікі — інжынеры чалавечых душ». І гэтыя словы старанна паўтаралі аратары, якія, рабалепна віляючы хвастамі перад Сталіным, будавалі свае выступленні вакол гэтага лозунгу. [...] Прамова Максіма Горкага выклікала велізарнае расчараванне. Хворы чалавек з выпаленай душой у сваім шчырым жаданні быць абсалютна лагічна лаяльным да дзяржавы, казаў рэчы, якія супярэчылі лепшым узорам яго ўласнай пісьменніцкай фантазіі».

Марцінсан быў настолькі расчараваны савецкай рэчаіснасцю, што ў 1940 годзе ў складзе шведскага добраахвотніцкага корпуса меў намер удзельнічаць у Зімовай вайне на баку Фінляндыі, але па стане здароўя не змог гэтага зрабіць. У тым жа годзе ён развёўся з Муа, якая стала «сябрам Савецкага Саюза»...

Марцінсан да канца жыцця заставаўся перакананым прыхільнікам барацьбы з «мёртвай тыраніяй бюракратычнай цывілізацыі», выратавацца ад якой, на яго думку, можна толькі знаходзячыся ў пастаянным руху. Ён умацаваўся ў сваім меркаванні аб тым, што сапраўдная форма існавання чалавека — падарожжа. Пазней у адным з інтэрв'ю Хары Марцінсан так раскажа пра свае бадзянні ў юнацтве: «Я сам бадзяжнічаў даволі шмат: 280 міль па Паўднёвай Амерыцы, 100 міль у Паўночнай Амерыцы, затым у Галандыі, Бельгіі, Францыі і па ўсёй Скандынавіі — у Швецыі я абышоў усе вобласці, акрамя Эланда і Готланда, у Нарвегіі ўсе правінцыі, акрамя Сэтэсдален».

Для пазнейшых паэтычных зборнікаў Марцінсана («Пасат» (1945), «Цыкада» (1953)), напісаных пераважна белым вершам, прыкметнае імкненне пісьменніка да філасофскага асэнсавання прыроды. На яго думку, найважнейшай добрай якасцю сапраўды мастацкіх пейзажных замалёвак з'яўляецца адчуванне пазачасавасці, якое ўзнікае пры іх успрыманні. У артыкуле «Пра прыроду ў літаратуры» (1947) Марцінсан наракаў на тое, што «апісанне прыроды ў сучасных творах мастацтва не толькі не лічыцца пажаданым, але нават, наадварот, падвяргаецца ганенням».

Падчас Другой сусветнай вайны Хары Марцінсан перажыў творчы крызіс і дэпрэсію. Ён быў узрушаны трагедыяй Хірасімы і Нагасакі, а потым выпрабаваннямі Савецкім Саюзам вадароднай бомбы ў сярэдзіне 1950-х. У 1949 годзе Марцінсан стаў адзіным за ўсю гісторыю пісьменнікам-самавукам, прынятым у шэрагі Шведскай акадэміі. А ў 1956 годзе выходзіць у свет самы галоўны яго твор — унікальная эпічная паэма з навукова-фантастычным сюжэтам «Аніара». У ёй аўтар абагульніў свае разважанні аб лёсах свету і цывілізацыі, аб месцы чалавека на Зямлі і ў космасе. Дзеянне ў творы адбываецца ў далёкай будучыні, у 43-м стагоддзі, калі пасля ядзернай вайны гіганцкі касмічны карабель Аніара з бежанцамі на борце пакідае атручаную і спустошаную Зямлю, накіроўваючыся да ўжо населенага людзьмі Марса. Але з-за збліжэння з астэроідам, назва якога намякае на Хірасіму, карабель губляе арыентацыю ў прасторы і назаўсёды сыходзіць за межы Сонечнай сістэмы, адпраўляючыся ў беззваротнае падарожжа ў глыбіні космасу, людзі на борце старэюць і паміраюць.



Хары Эдмунд Марцінсан

Фота Av Petrus Pramm Nordiska museet

У гэтай паэме Марцінсан адлюстраваў страшную будучыню нашай планеты: свет развітой тэхнікі (апавяданне вядзецца ад асобы «мімароба» — безназоўнага інжынера, які абслугоўвае Міму — машыну, якая паказвае пачуццёвыя выявы) не можа выратаваць змучаную ядзернымі выбухамі і спустошаную Зямлю. Карабель працягвае свой бясконцы бессэнсоўны шлях у прасторы.

Паэма некалькі дзён чыталася па шведскім радыё, а пастаноўка ў 1959 годзе ў Оперным тэатры Стакгольма аднайменнай оперы, напісанай кампазітарам Карлам-Біргерам Бламдайлем, стала вялікай падзеяй у культурным жыцці Швецыі.

103 песні паэмы напісаны рознымі паэтычнымі памерамі (ад ямба і гекзаметра да «калевальскага метра»). Акрамя таго, Марцінсан вынайшаў мноства неалагізмаў, закліканых перадаць тэхнічную тэрміналогію, а таксама выкарыстаў уласныя імёны з многіх моў свету. Усе выдуманыя словы і імёны ў Марцінсана — не проста бяздзейныя моўныя практыкаванні, у іх заўсёды закладзены сэнс, характарыстыка, алюзія, заўсёды прасвечваюцца карані розных моў, бо гісторыя Аніары — гэта гісторыя ўсяго чалавецтва.

У 1974 годзе Хары Марцінсан атрымаў Нобелеўскую прэмію па літаратуры («за творчасць, у якой ёсць усё — ад кроплі расы да космасу»), падзяліўшы яе са сваім суайчыннікам, таксама прадстаўніком «працоўных пісьменнікаў» Эйвіндам Юнсанам (1900—1976). У сваёй прамове член Шведскай акадэміі Карл Рагнар Гіраў сказаў, што Юнсан і Марцінсан — «прадстаўнікі той фалангі пралетарскіх пісьменнікаў, якія шырокім фронтам уварваліся ў нашу літаратуру, але не дзеля таго, каб рабаваць і забіваць, а дзеля таго, каб узбагаціць яе сваімі магчымасцямі». Тады ж Марцінсан быў абвешчаны «першым паэтам касмічнай эпохі». Рэакцыя на гэтае рашэнне была вельмі неадназначнай, бо абодва пісьменнікі да таго моманту былі ўжо членамі Шведскай акадэміі (якая і выбірае кандыдатаў на прэмію). Калі простыя чытачы радаваліся гэтаму выбару, бо абодва аўтары былі вельмі папулярныя, то калегі па пісьменніцкім цэху і літаратурныя крытыкі адрэагавалі вельмі негатыўна.

Аўтары-набелянты не маглі не бачыць і не чытаць гэтыя водгукі і страшна з-за гэтага перажывалі, — можна сказаць, што крытыка, якая на іх абрынулася, іх забіла. У 1976 годзе пайшоў з жыцця Юнсан. А ў 1978-м трагічна абарвалася жыццё Хары Марцінсана: зламаны перажываннямі, пажылы пісьменнік зрабіў сабе харакіры нажніцамі ў бальніцы Каралінскага ўніверсітэта.

Такім быў жыццёвы шлях Хары Марцінсана — аднаго з класікаў шведскай літаратуры, найвялікшага рэфарматара паэтычнай мовы XX стагоддзя...




Магіла пісьменніка на могілках у прыгарадзе Стакгольма

## Bloomsday 2024: штогадовае свята Джойса

У 1922-м, да 40-годдзя пісьменніка, у Парыжы быў выдадзены «Уліс» Джэймса Джойса. Напэўна, адна з самых вядомых кніг XX стагоддзя. І, безумоўна, самая ўплывовая. «Біблія мадэрнізму», як некаторыя называюць яе. Кніга, якая была забароненая ў ЗША да 1934 года з-за сваёй непрыстойнасці, у Англіі — да 1936 года; яе немагчыма было знайсці ў роднай Ірландыі Джойса да сярэдзіны 1960-х.

Дзеянне гэтага сямісотстаронкавага рамана разгортваецца на працягу аднаго дня (16 чэрвеня) 1904 года (на самай справе таксама і 17 чэрвеня), і ў асноўным кніга распавядае пра блуканні дублінскага габрэя Леапольда Блума.

Ролю «Уліса» ў XX стагоддзі цяжка пераацаніць; акрамя прамых запазычанняў з рамана, чаго не хавалі іншыя пісьменнікі, ён ускосна паўплываў на ўсю наступную літаратуру, у прыватнасці, на стаўленне да мадэрнісцкага падыходу «плыні свядомасці».

«Уліс» справакаваў і з'яўленне свята, якое ў гонар галоўнага героя было названа Блумсдэем і штогод адзначаецца 16 чэрвеня ва ўсім свеце, але больш за ўсё, вядома, у Дубліне.

Цікава, што сам Джойс упершыню згадаў гэтае свята сто гадоў таму. У лісце да міс Ўівер 27 чэрвеня 1924 года ён апісаў групу людзей, якія святкавалі тое, што яны назвалі Днём Блюма. Аднак больш масава і арганізавана яго пачалі адзначаць 70 гадоў таму — у 1954 годзе. А з 1994 года ў сталіцы Ірландыі і праводзіцца фестываль Bloomsday. Звычайна ён доўжыцца цэлы тыдзень.

У 2024 годзе праграма як заўсёды была насычанай — больш за 100 мерапрыемстваў: кінафестываль з кароткаметражнымі фільмамі пра Джойса і Дублін, розныя падзеі ў музеях і ўстановах, апісаных ва «Улісе», традыцыйная экскурсія па Дубліне па маршруце Леапольда Блума, нефармальныя спаборніцтвы яго двайнікоў і шмат іншых чытанняў, інсцэніровак і розных адаптацый рамана ў памяшканнях і пад адкрытым небам.

## XVI-ы фестываль Конрада

Напрыканцы кастрычніка пісьменнікі з усяго свету сустрэнуцца на XVI Міжнародным літаратурным фестывалі Джозэфа Конрада ў Кракаве.

CONRAD FESTIVAL

Джозэф Конрад (Joseph Conrad) — ангельскі пісьменнік польскага паходжання, майстар марскога рамана, адзін з найвядомых ангельскіх раманістаў, — нарадзіўся 3 снежня 1857 года ў Бярдзічаве Кіеўскай губерні, памёр 3 жніўня 1924 года ў Брытаніі.

Галоўнай ідэяй фестывалю сёлета стане аўтэнтыка. Падчас восеньскага літаратурнага фестывалю можна будзе сустрэць сусветна прызнаных аўтараў. Польскую літаратуру прадставяць, між іншым, аўтарка гістарычных раманаў Ганна Бжэзіньска і даследчык гісторыі культуры Лукаш Козак.

Сустрэчы дадуць магчымасць абмеркаваць аўтэнтыку, якую крэатыўны дырэктар фестывалю Вольга Дрэнда параўнала з філасофскім каменем: «Усе шукаюць, але калі спрабуюць вызначыць, што гэта такое, яно знікае ў паветры. З іншага боку, аўтэнтычнасць — гэта тэрмін, які выкарыстоўваецца так часта, што яго значэнні могуць "выслізнуць". Парадокс? Выдатна. Тым больш мы хочам паглядзець на вымярэнні сапраўднасці ў літаратуры. Мы будзем чытаць класікаў і аўтсайдэраў, абмяркоўваць літаратурныя прызнанні, межы выдумкі і факту, свабоду спекуляцый. Хто ведае, магчыма, мы таксама зможам знайсці адказ на пытанне, што насамрэч значыць "быць сабой"».

Адным з замежных гасцей кракаўскага мерапрыемства будзе Себасцьян Бары — паэт, сцэнарыст і аўтар вядомых раманаў. Сёння ён адзін з найважнейшых прадстаўнікоў ірландскай культуры, ён пяць разоў быў намінаваны на Букераўскую прэмію.

Кракаў наведае таксама аргентынская пісьменніца, журналістка, аўтарка тэлевізійных сцэнарыяў і тэатральных п'ес Клаўдыя Піньейра. Вядомасць ёй прынеслі яе раманы з крымінальным сюжэтам, у якіх сацыяльна-палітычныя тэмы займаюць ключавое месца. Піньейра — адна з самых цікавых і чытаных лацінаамерыканскіх аўтарак. Пра яе феномен сведчыць той факт, што яна займае трэцяе месца сярод найбольш часта перакладаемых пісьменнікаў з Аргенціны — пасля Хорхэ Луіса Борхеса і Хуліа Картасара. Разам з Клаўдыяй Піньейра чытачы абмяркуюць, ці можа літаратура стварыць вартую даверу панараму, у якой кожны можа ўбачыць сябе, і як жанр мастацкай літаратуры можа быць важным інструментам, які дапамагае нам зразумець саміх сябе.

Пра рэканструяванне мінулага на Фестывалі Конрада распавядзе гісторык і пісьменніца Анна Бжэзіньска. Яе самыя вядомыя творы разгортваюцца ў выдуманай краіне па ўзоры Італіі эпохі Адраджэння. Сёлета выйшаў раман «Імгла», у якім Бжэзіньска, спалучаючы фантастыку і гісторыю, спрабуе адлюстраваць менталітэт герояў, сфарміраваны магічным і рэлігійным мысленнем. Падобныя праблемы ўзнікаюць і ў тэкстах Лукаша Козака, які таксама наведае кракаўскі фестываль. Найбольш вядомай працай гэтага даследчыка гісторыі культуры з'яўляецца даследаванне «Прывід». Аўтар аб'ядноўвае шматлікія крыніцы — часам забытыя, часам ігнаруемыя — каб паглядзець на феномен, які на працягу стагоддзяў аказваў вялікі ўплыў на грамадскае жыццё: веру ў прывідаў.

Сустрэчы і дыспуты з пісьменнікамі — толькі частка будучай праграмы восеньскага літаратурнага свята. Фестываль Конрада таксама ўключае галіновыя сустрэчы ў рамках «Кніжнага кангрэса» і серыі майстар-класаў «Урокі чытання», якія праводзяць літаратуразнаўцы. Таксама ў рамках мерапрыемства пройдуць мерапрыемствы для дзяцей і сем'яў, а таксама кінапаказы.

Прэмія Конрада за найлепшы празаічны дэбют будзе ўручана на фестывалі ў дзясяты раз — лонг-ліст намінантаў журы абвесціць у жніўні.

## Раману «1984» — 75 гадоў

Раман Джорджа Оруэла «1984» быў апублікаваны летам 1949 года. Многія называюць гэтую кнігу прарочай. З гадамі яна становіцца яшчэ больш актуальнай, чым 75 гадоў таму. Гэта гісторыя Ўінстана Сміта, паслухмянага грамадзяніна рэпрэсіўнай будучай дзяржавы, які паволна паўстае супраць сістэмы. Кніга з'яўляецца магутным даследаваннем таталітарызму і яго ўздзеяння на чалавека. Яна была напісана ў свеце, разараным фашызмам, на фоне першых дзён халоднай вайны і распаўсюду камунізму. Оруэл, які хварэў, памёр праз 5 месяцаў пасля публікацыі сваёй кнігі ва ўзросце 46 гадоў. Прэм'ера нарабіла шмат шуму, кніга была непапулярная сярод многіх левых палітыкаў, якія палічылі яе замахам на камунізм.

У СССР раман «1984» быў забаронены да 1988 года. З гадамі кніга станавілася толькі больш уплывовай і мела большы продаж. На сённяшні дзень кніга разышлася тыражом больш за 8 мільёнаў асобнікаў і шмат разоў экранізавалася на сцэне і на экране, што можна лічыць самым высокім паказчыкам яе ўплывовасці.

Побач з галоўным офісам BBC ў Лондане стаіць помнік Оруэлу. На ім цытата: «Калі свабода нешта значыць, дык гэта права казаць людзям тое, што яны не хочуць чуць».

Кніга пакінула багатую спадчыну слоў і ідэй для апісання ўлады, таталітарызму, ролі тэхналогій. Вялікая сіла кнігі заключаецца і ў яе прадказаннях.

80-гадовы Рычард Блэр, прыёмны сын Джорджа Оруэла (сапраўднае імя пісьменніка Эрык Артур Блэр), перакананы, што сіла кнігі ў перасцярогах яго бацькі, якія застаюцца актуальнымі ў свеце сацыяльных сетак і сучасных тэхналогій.

З усіх рысаў таталітарнай дзяржавы, апісаных Оруэлам, сам ён найважнейшай лічыў «сістэму арганізаванай хлусні». У 1945 годзе ён пісаў: «Арганізаваная хлусня, якой карыстаюцца таталітарныя дзяржавы, зусім не з'яўляецца, як часам кажуць, часовай мерай таго ж роду, што і ваенная хітрасць. Гэта частка самой сутнасці таталітарызму і не знікне нават тады, калі перастане існаваць неабходнасць у канцлагерах і тайнай паліцыі». «Сутнасць таталітарызму, — казаў Оруэл, — у маніпуляцыі свядомасцю грамадзян». Перад арыштам герой рамана «1984» Ўінстан Сміт чытае кнігу галоўнага «ворага народа» Эмануіла Гольдштэйна (якую насамрэч напісаўаднапартыец О'Брайэн), пачынаючы з раздзела «Вайна — гэта мір». Там наступны тэкст: «Ад любога, нават самага нязначнага члена партыі, патрабуецца веданне справы, працавітасць і нават розум у вузкіх межах, але гэтак жа неабходна, каб ён быў недасведчаным фанатыкам, які не задае пытанняў, а ў яго душы пануе страх, нянавісць, сляпое пакланенне і аргіястычнае захапленне. Інакш кажучы, яго менталітэт павінен адпавядаць ваеннаму стану».

## Кніга ўкраінскай аўтаркі — у спісе чытання Forbes

Дэбютны паэтычны зборнік перакладчыцы Аксаны Максімчук «Still city» увайшоў у спіс рэкамендаванай летняй літаратуры Forbes.




«У сваім першым зборніку на англійскай мове амерыканка ўкраінскага паходжання Максімчук дакументуе жыццё ў сваім родным горадзе Львове і па ўсёй Украіне — ад страху ў канцы 2021 года да рэальнасці знаходжання пад абстрэлам. Выкарыстоўваючы гісторыі іншых людзей, а таксама свае ўласныя, яна апускае нас у свет, дзе страх і гвалт прасочваюцца настолькі, што яны становяцца ашаламляльна звычайнымі, — гаворыцца ў публікацыі Forbes.

Кніга выйшла ў брытанскім выдавецтве Carcanet Press. Па словах аўтаркі, вершы са зборніка ўтрымліваюць разважанні пра надзею і пра тое, што можа даць паэзія ў змрочныя часы. «Вершы "медытуюць" аб зменлівым адчуванні рэальнасці, часовасці, смяротнасці і блізкасці перад абліччам катастрафічнай падзеі. На мяжы паміж хронікай, прыпевам і калажам "Still City" з актуальнасцю і інтэнсіўнасцю адлюстроўвае жыццёвы вопыт лімінальнасці, прапаноўваючы розныя пункты гледжання на вайну і яе наступствы», — гаворыцца ў анатацыі.

У тэкст кнігі ўвайшлі вершы, напісаныя пад уражаннем ад пастоў у сацыяльных сетках, навінаў, сведчанняў відавочцаў, вусных гісторый, фотаздымкаў, відэаматэрыялаў з дронаў, перахопленых паведамленняў і інш.

## «Vilnius Review» — узнагарода за найлепшы дызайн

Усяго ў розных намінацыях спаборнічалі больш за 30 тысяч праектаў з 78 краін, якія ацэньвалі больш за 300 экспертаў. У катэгорыі часопіснага і газетнага дызайну «Vilnius Review» спаборнічаў з праектамі такіх вядомых выданняў, як «The New York Times», «The Daily Telegraph», «The Guardian».




Прэміі — сімвалічныя алоўкі — атрымалі 17 выданняў.

Конкурс дызайну D&AD (гэта лонданская некамерцыйная творчая, рэкламная і дызайнерская асацыяцыя) праводзіцца з 1962 года і з'яўляецца адным з самых важных і буйных міжнародных конкурсаў дызайну ў свеце.

## Асобнік «Гары Потэра» за 45 тысяч фунтаў

Сайт брытанскага аўкцыённага дома Lyon and Turnbull паведаміў, што адзін з 500 упершыню надрукаваных асобнікаў «Гары Потэра і філасофскага каменя» прадалі за 45 201 фунт стэрлінгаў (гэта амаль 60 000 даляраў). Кніга выйшла ў 1997 годзе ў лонданскім выдавецтве Bloomsbury. Выдавец не спадзяваўся на вялікі попыт, таму спачатку выпусціў невялікі наклад.




Кніга, якая «пайшла з малатка», знаходзілася ў выдатным стане. І гэта незвычайна, бо каля 300 асобнікаў першага выдання разышліся па бібліятэках і былі зачытаныя «да дзірак». І толькі 200 асобнікаў былі прададзены ў розніцу.

Адмысловую каштоўнасць для калекцыянераў уяўляе тое, што ў кнізе ёсць некалькі памылак. Напрыклад, знізу на задняй вокладцы напісана philospher's замест philosopher's, а на 53-й старонцы двойчы паўтараецца фраза «адна чароўная палачка» пры пералічэнні школьных прыладаў Гары...